Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 1 (4801) 9 студзеня 2015 г.



## Пункціраму

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў праслаўных хрысціян з Раством Хрыстовым. «Мінаюць тысячагоддзі, але святло вялікай урачыстасці зноў прыносіць надзею ў дамы мільёнаў людзей. Яно аб'ядноўвае ўсіх нас высокімі памкненнямі да маральнасці, служыць умацаванню маральных устояў і згоды ў грамадстве», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь напрыканцы года разгледзеў кадравыя пытанні. Кіраўнік дзяржавы прызначыў: Андрэя Кабякова — Прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь; Аляксандра Косінца — Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; Наталлю Качанаву — намеснікам Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь; Ігара Бузоўскага — намеснікам Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

✔ Кіраўнік дзяржавы падпісаў распараджэнне аб назначэнні стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 97 таленавітым маладым вучоным на 2015 год. Сярод іх — 11 дактароў навук і 54 кандыдаты навук. Навуковыя дасягненні перспектыўных даследчыкаў выкарыстоўваюцца ў дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў і ўстаноў сацыяльнай сферы краіны.

✔ Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка сустрэўся з прэзідэнтам музея «Арсэй» Гуі Качэвалем. Кіраўнік аднаго з вядучых французскіх музеяў праінфармаваны пра развіццё беларуска-французскага супрацоўніцтва ў сферы культуры і вынікі правядзення Дзён беларускай культуры ў Францыі ў 2014 годзе.

✔ Пленум Праўлення СПБ адбудзецца 13 студзеня ў 13 гадзін у Доме літаратара. Творцы падвядуць вынікі працы арганізацыі ў 2014 годзе і абмяркуюць планы на 2015-ы.

✔ Аўтар шэрагу кніг, у тым ліку паэтычнага зборніка «Сустрэча», старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамара Краснова-Гусачэнка ўвайшла ў лонг-ліст міжнароднай літаратурнай прэміі «Золотой Дельвиг-2014». Гэтая ўзнагарода заснаваная ў 2012-м як штогадовая расійская агульнанацыянальная прэмія. Сёлета сярод саіскальнікаў — пісьменнікі з Расіі, Украіны, Літвы ды іншых краін.

✔ Дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, супрацоўнікі ўстановы Ігар Бандаровіч, Сяргей Анцух і Святлана Франко атрымалі высокую ўзнагароду ад Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Паўла — грамату Патрыяршага Экзарха «У блаславенне за працу дзеля славы Святой Праваслаўнай Царквы», якую ўручыў Епіскап Барысаўскі і Мар'інагорскі Веніямін.

✔ 12 студзеня, у дзень нараджэння народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна, цэнтральны камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў культуры арганізуе дабрачынны паказ спектакля «Пясняр» на сцэне рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Сродкі ад продажу білетаў будуць пералічаны на стварэнне помніка Мулявіну ў Екацярынбургу.

# УВАГА: моладзь на старце!




Фота Кастуся Дробава

Чытайце на стар. 9

## Віншаванне

Праасвяшчэнныя архіпастыры, высокашаноўныя прасвітары і дыяканы, пачэсныя інакі ды інакіні, багалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Сардэчна віншую ўсіх вас з вялікім і радасным святам Раства Хрыстовага.

У гэтую светлазарную ноч у свет прыйшоў Хрыстос Збаўца, каб адкрыць людзям Бога. Святая Царква, абвяшчаючы свету гэтую Боскую тайну, пачынае святочную ўрачыстасць словамі: «Прыйдзіце, узрадуемся ў Госпадзе, тайну гэтую раскрываючы».

Вялікую тайну Богаўцелаўлення прадказвалі прарокі, пра гэта прапаведавалі апосталы: Бог з'яўляецца ў плоці, каб даць людзям новае нараджэнне, а свету — абнаўленне. Выйшаўшы на пропаведзь, Сам Збаўца адкрыта сведчыў веруючым у Яго: «Я прыйшоў, каб жыццё мелі, і ўдосталь мелі».

Любоў Божая, бязмежная і ўсеабдымная, сышла да людзей у Асобе Богадзіцяці Хрыста. Сын Божы сышоў на зямлю, каб даць чалавецтву Боскую сілу, «для жыцця і набожнасці», каб наша грахоўнасць была згладжана Праўдай Божай, каб наша няведанне было прасветлена Святлом Божым. «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля», — Святая Царква, святкуючы Раство Хрыстова, услед за Нябеснымі Сіламі радасна ўслаўляе Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які прынёс на зямлю вечнае збаўленне, мір і любоў.

Зерне веры і набожнасці, пасеянае больш за тысячагоддзе таму на нашай благаслаўлёнай зямлі, з цягам часу вырасла ў магутнае дрэва Праваслаўя, якое і сёння застаецца асновай нацыянальнага самавызначэння пераважнай большасці насельніцтва трох славянскіх краін — Беларусі, Расіі і Украіны, якая перажывае цяпер трагедыю грамадзянскай вайны. Ва ўмовах палітычнай дэзынтэграцыі Царква для народаў, якія яе складаюць, застаецца ўмацавальным саюзам. Для праваслаўнага чалавека — гэта адзіная духоўная прастора, якая мае агульны для гэтай часткі Еўропы культурна-цывілізацыйны код.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры! Віншуючы ўсіх вас са светлым святам Раства Хрыстовага, малітоўна жадаю вам невычэрпнай благадатнай дапамогі Божай у далейшай вашай працы на славу Святой Праваслаўнай Царквы, на славу Бацькаўшчыны нашай, на карысць і росквіт зямлі, на якой мы з вамі жывём, на дабро ўсім нашым бліжнім і дальнім. Амінь.

**Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**
**ПАВЕЛ**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Твор — гэта твой працяг



Уладзімір Гаўрыловіч — старшыня Гомельскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік і публіцыст, аўтар 14 кніг. Творца ўганараваны медалём Францыска Скарыны. Якія патрабаванні ў пісьменніка да ўласнай творчасці? Каго вылучае сярод калег? Пра гэта ды іншае з Уладзімірам Мікалаевічам пагутарыла карэспандэнт «ЛіМа».

— Працую не дзеля ўзнагарод. Тое, што я раблю як пісьменнік і кіраўнік аддзялення, ацэняць людзі і час. У адным упэўнены: мае творы нясуць людзям дабро. А ў грамадскай дзейнасці найперш зыходжу з паняцця «МЫ». Так вучылі дзядуля, маці. Гэта аснова майго жыцця. Пасля напісання твор жыве сваім жыццём. Калі даводзіцца нешта перачытваць — жадання штосьці перарабіць не ўзнікае. Твор — гэта твой працяг, дзіця...

**— Пра што яшчэ хацелася б напісаць?**

— З дзяцінства найбольшы ўплыў на мяне аказалі родныя, якія прывучалі старанна працаваць, быць сумленным і адказным. Прыклад дзядулі, які замяніў мне бацьку і быў паважаным чалавекам на вёсцы (пасля вайны з чатырма класамі адукацыі 14 гадоў узначальваў мясцовы калгас «ІІ пяцігодка»), як і мамы, простай калгасніцы (адна выгадавала чацвярых дзяцей), быў вызначальным. Расказаныя імі рэальныя жыццёвыя гісторыі сталі праз гады асновай для мастацкіх твораў. Зразумела, па магчымасці я паказваў не столькі побыт землякоў, колькі іх духоўны свет. Большую частку жыцця пражыў на малой радзіме, таму невыпадкова ў цэнтры маіх раманаў, аповесцей, апавяданняў — палеская тэматыка. Хутка збіраюся звярнуцца да вобраза тураўскай зямлі X стагоддзя. Там усё: і каханне, і здрада...

**— Якую літаратуру чытаеце?**

— Класічную беларускую і рускую — творы для душы. З айчынных аўтараў мне блізкія Уладзімір Саламаха, Леанід Левановіч, Віктар Гардзей, Георгій Марчук…

**— Ці звяртаецца да вас творчая моладзь?**

— Толькі за апошнія тры гады мы правялі 15 літаратурных конкурсаў для моладзі. Творы пераможцаў публікаваліся ў альманаху «Літаратурная Гомельшчына». Абласным аддзяленнем пры дапамозе спонсараў выдадзена сем кніг маладых паэтаў і празаікаў, у тым ліку ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Падтрымліваем дзейнасць школы «Малады літаратар». Дарэчы, толькі нядаўна на фестывалі «Славянскія літаратурныя дажынкі» ўручаны ўзнагароды пераможцам абласных літаратурных конкурсаў: кароткай прозы (імя Івана Сяркова) і паэтычнага (да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў).

**— Кнігі якіх аўтараў Гомельшчыны ўбачылі свет за апошні час?**

— Сёлета мае калегі выдалі 35 кніг. Гэта нямала. Ацэнку ім дадуць час і чытачы. Як, дарэчы, і творам уладальнікаў другой абласной літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага Гомельскага аблвыканкама. Такая прэмія была заснавана ў 2013 годзе ў развіццё шматгадовага аналагічнага конкурсу, які сем гадоў праводзіла наша аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, пасля сустрэчы актыву пісьменніцкай арганізацыі са старшынёй аблвыканкама Уладзімірам Дворнікам. Сёлета перамаглі ў конкурсе рукапісаў паэт Аляксандр Дуброўскі, празаік Валянціна Кадзетава, публіцыст Тамара Кручэнка, паэты, якія пішуць для дзяцей, — Аляксандр Атруховіч і Валерый Вятошкін. Яны атрымаюць абласныя прэміі і выдадзеныя па выніках конкурсу рукапісаў кнігі.

**Яна ЯВІЧ**

# Сведкі ліхалецця

Прэзентацыя новых кніг серыі «Дзеці вайны» (выдавецтва «Чатыры чвэрці»), прысвечанай 70-годдзю Вялікай Перамогі, адбылася ў сталічным Палацы мастацтва.

— У творах гэтай серыі — філасофія вайны, аповеды нашых сучаснікаў, пісьменнікаў, якія не бралі ўдзел у ваенных дзеяннях, але былі пазбаўлены мірнага дзяцінства. Для гісторыі важныя не толькі подзвігі, але і малыя крупіцы падзей. Пакуль жывыя сведкі Вялікай Айчыннай вайны, мы павінны захаваць іх успаміны, — адзначыла на пачатку імпрэзы дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух.

Адзін з аўтараў серыі — паэт і празаік Мікола Чарняўскі, які нарадзіўся падчас вайны. Мікола Мікалаевіч распавёў прысутным пра сваё дзяцінства, раскрыў гісторыю стварэння кнігі «На плошчы памяці маёй».

Яшчэ адной кнізе з серыі «Дзеці вайны» дала назву аповесць «Бэлі пуэры» Сяргея Трахімёнка, члена СПБ і Саюза пісьменнікаў Расіі. У аснове твора — малавядомыя факты, пацверджаныя архіўнымі дакументамі, пра падлеткаўдыверсантаў, непрактыкаванасць і даверлівасць якіх умела выкарыстоўвалі ворагі. Першапачаткова ў якасці загалоўка аўтар хацеў скарыстаць лацінскі тэрмін, але, звярнуўшыся да лінгвістаў, даведаўся, што ў тыя часы, калі лацінская была жывой мовай, дзеці не ваявалі. Таму сам склаў назву з лацінскіх слоў. Другая аповесць, уключаная ў кнігу, — «Вайна вачыма дзяцей» Таццяны Дашкевіч.

Член СПБ Ніна Галіноўская назву сваёй кнігі «Няма даравання вайне» патлумачыла так:

— Вайна забрала майго бацьку і траіх братоў, якія загінулі на фронце. Ліхалецце пазбавіла мяне радасці мацярынства: двойчы перахварэла на тыф. У памяці назаўсёды застаўся жах перажытага. Памятаю, як паміралі дзяўчаты з нашага сяла, атручаныя газам. Усё напісанае, кожнае слова — праўда, пабачаная на ўласныя вочы.

У серыі «Дзеці вайны» выйшлі кнігі вядомых пісьменнікаў і пачаткоўцаў: «Курганны звон» Казіміра Камейшы, «Узаранае поле» Алеся Савіцкага, «Вязні «Ладэмюле», або 597 дзён няволі» Валянціна Жукава, «Апаленая маладосць» Таццяны Майстрэнка, «Чорны год» Фелікса Баторына, «Кропка» Алены Падкаціс, «Цяжкая дарога» Васіля Гурскага, «Беражыце шыпшыну» Міколы Маляўкі, «У днях, да самазабыцця не гатовых...» Ізяслава Катлярова.

Член СПБ Уладзімір Навумовіч, чый рукапіс ужо ў выдавецтве, ведае вайну па расповедах родных. Уладзімір Аляксандравіч выжыў цудам: грудным дзіцем разам з маці перажыў дзве партызанскія блакады.

Лірычную атмасферу вечарыне надалі ўдзельнікі народнага хору ветэранаў «Славянскі сувенір» Рэспубліканскага палаца культуры ветэранаў, ансамбль «Мінчане». Пісьменнікі Сяргей Трахімёнак і Таццяна Дашкевіч выканалі песні пад гітару. Уласныя вершы пра вайну прадэкламаваў 93-гадовы Аляксандр Іосіфавіч Ульяновіч — удзельнік штурму Берліна, першы дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вялікай Айчыннай вайны. Вершы паэтаў ваеннага часу прагучалі ў выкананні Ліліяны Анцух.

Прэзентацыю чарговых кніг з серыі «Дзеці вайны» выдавецтва плануе правесці ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў красавіку.

**Ганна МАСЛЯКОВА**

# Калі сэрца памятае

Госцем чарговай сустрэчы ўдзельнікаў сталічнага літаб'яднання «Акорд» стаў паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Маляўка.

Творца, які нарадзіўся ў 1941-м у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, называе сябе равеснікам вайны. Ёсць у яго і аднайменны верш.

Мікола Аляксандравіч распавёў прысутным пра цяжкае пасляваеннае дзяцінства, пра тое, як юнаком шчыраваў у калгасе. Пасля заканчэння філфака БДУ пэўны час настаўнічаў, пазней працаваў у нясвіжскай і стаўбцоўскай «раёнках», у літаратурных рэдакцыях айчыннага радыё і тэлебачання. Шмат гадоў аддаў працы ў рэдакцыі часопіса «Вясёлка». Аўтар каля трох дзясяткаў кніг для дзяцей і дарослых, адну з якіх — «Крыштальная галінка снегападу» (2011) — прадставіў публіцы падчас імпрэзы.

У паэзіі М. Маляўкі — філасофія жыцця, духоўны свет чалавека, памяць пра бацькоў і родную хату. Але разам з сур'ёзнай, нават тужлівай лірыкай у яго творчай скарбонцы ёсць і лёгкія, жартоўныя, гумарыстычныя вершы. Імпрэзу аздобілі сваімі творамі паэты Вольга Шпакевіч, Ядвіга Рай, Яна Явіч, Міхась Мазурэнка, Леў Міхееў, кіраўнік «Акорда» Тамара Залеская.

**Дана ХОДНІЧ**

# Прынятыя ў СПБ



**Чынгіз Алі аглы АЛІЕЎ (Чынгіз Аліаглу)**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 29 чэрвеня 1944 года ў Фізулінскім раёне Азербайджана. Скончыў Азербайджанскі інстытут нафтахіміі. Член Праўлення і старшыня секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў Азербайджана, удзельнік Міждзяржаўнага Савета краін СНД па кнігавыданні. Заслужаны дзеяч мастацтваў і заслужаны работнік культуры Азербайджана. Аўтар больш як 60 паэтычных кніг, у тым ліку беларускамоўнага зборніка вершаў і паэм «Знічкай цябе я пакіну» (Мінск, 2014) у перакладах айчынных творцаў.



**Эдуард Георгіевіч МІЛІТАНЯН**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 12 мая 1952 года ў г. Ерэване (Арменія). Скончыў Ерэванскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў у выдавецтвах «Пионер», «Гарун», «Титернак» першым намеснікам начальніка, а пасля — начальнікам упраўлення інфармацыі і літвыдавецтва Арменіі, дырэктарам радыё Арменіі, начальнікам упраўлення інфарматызацыі і прапаганды Міністэрства абароны Арменіі. Цяпер старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі. Аўтар амаль трох дзясяткаў паэтычных зборнікаў.

# Прагнозы кніжныя

Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне і гісторыя культуры Беларусі — дзве галоўныя тэмы, якія аб'ядноўваюць 2014 і 2015 гады ў беларускім кнігавыданні. На прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы прадстаўнікі дзяржаўных выдавецтваў распавялі пра навінкі і планы на 2015 год.

З кніг мінулага года выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» варта адзначыць пяты том энцыклапедыі «Культура Беларусі», а таксама даведнікі пра беларусаў — поўных кавалераў ордэна Славы і Герояў Сацыялістычнай Працы. У «Мастацкай літаратуры» пабачылі свет новыя кнігі мастацтвазнаўцы Барыса Крэпака, успаміны легенды сусветнага спорту Аляксандра Мядзведзя, кніга Валерыя Ярмоленкі «Асы-беларусы» пра знакамітых авіятараў нашай краіны. Адным з самых значных набыткаў мінулага года для выдавецтва «Беларусь» стала кніга Барыса Лазукі «Слуцкія паясы. Адраджэнне традыцый», прысвечаная не толькі гісторыі, але і магчымасцям выкарыстання матываў слуцкіх паясоў сёння.

Галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч прэзентавала самую свежую навінку — «Вялікую энцыклапедыю Вялікага тэатра Беларусі», якая распавядае пра вядучыя спектаклі, лепшых артыстаў і музыкантаў Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. «Па жанры гэта класічная энцыклапедыя, але яна атрымалася не сумнай, бо змяшчае шмат фотаздымкаў з архіва тэатра, на якіх прадстаўлены і парадны бок, і жыццё па-за заслонай», — заўважыла Л. Языковіч. Супрацоўнікі выдавецтва «Беларусь» Анжэла Садоўская і Сяргей Пешын распавялі пра кнігу Анатоля Федарука «Старажытныя сядзібы Гродзеншчыны: Бераставіцкі — Іўеўскі раёны», якая таксама выйшла з друку зусім нядаўна.

Сярод кніг, якія пабачаць свет у 2015 годзе — «Рэлігійнае выяўленчае мастацтва Беларусі» П. Яніцкай, «Беларускае кавальства» Я. Сахуты («Беларусь»), даведнік «Іх імёнамі названы... Вуліцы Мінска» — з біяграфіямі людзей, у гонар якіх названы вуліцы сталіцы («Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі»).

У выдавецкім доме «Звязда» ідзе праца над альбомамдаведнікам «Музей Вялікай Айчыннай вайны», кнігай «Дзеці пра вайну», якая змесціць расповеды на аснове сямейных гісторый і будзе своеасаблівым злучальным звяном між моладдзю і сведкамі вайны. Таксама ў планах выдавецтва — альбом фотаздымкаў ваеннага карэспандэнта. Рыхтуецца і своеасаблівы «народны праект» — кніга Васіля Аркашова «Зачараваны Беларуссю» з фотаздымкамі Уладзіслава Цыдзіка і вершамі беларускіх паэтаў.

Многія кнігі маюць падарункавы фармат, таму гэтым годам да Дня абаронцаў Айчыны дакладна будзе што пачытаць. Рэцэнзіі на новыя кнігі, як заўсёды, на старонках «ЛіМа»!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Прэзентацыі*

# Зоркі з журфака

**Прэзентацыя кнігі «Святло блізкіх зорак» (Мінск, «Выдавецкі дом «Звязда», 2014) сабрала ў Інстытуце журналістыкі БДУ выкладчыкаў, студэнтаў, аўтараў і герояў выдання.**

Укладальнік кнігі, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Людміла Саянкова зазначыла: з пасляваеннага часу на журфаку працавалі выкладчыкі, якія давалі студэнтам грунтоўныя веды не толькі па праграмных прадметах, але і па творчасці, культуры, мастацтве. Такая выкладчыца — Ефрасіння Леанідаўна Бондарава — сустрэлася і на студэнцкім шляху самой Л. Саянковай.

Сярод выпускнікоў журфака — тыя, хто зрабіў заўважны ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры. Гэта не толькі журналісты, але і пісьменнікі, кінарэжысёры, кінадакументалісты. А яшчэ — тэатральныя, музычныя і кінакрытыкі. Новая кніга якраз пра гэтых выбітных людзей: Адама Мальдзіса, Паўла Місько, Ефрасінню Бондараву, Анатоля Вярцінскага ды іншых.

Паводле дырэктара Інстытута журналістыкі Сяргея Дубовіка, прэзентацыя сталася працягам святкавання 70-гадовага юбілею журфака.

Увайшоў у кнігу і артыкул дырэктара — галоўнага рэдактара Выдавецкага дома «Звязда» Алеся Карлюкевіча пра выпускніка аддзялення журналістыкі філфака БДУ, літаратуразнаўцу, доктара філалагічных навук, прафесара Адама Мальдзіса, якога аўтар назваў «экалагам культуры». Алесь Мікалаевіч упэўнены: кніга «Святло блізкіх зорак», якая ў далейшым мусіць мець працяг, выхоўвае на канкрэтных прыкладах, распавядае пра журналістыку, праз яе знакавыя постаці паказвае, без чаго чалавек не можа адбыцца як прафесіянал.

Герояў кнігі, якія прысутнічалі на прэзентацыі — Уладзіміра Мехава, Адама Мальдзіса, Анатоля Алая, — публіцы прадстаўлялі студэнты Інстытута журналістыкі. Колішні супрацоўнік «ЛіМа» У. Мехаў расказаў гісторыю знаёмства з будучай жонкай Ганнай, прыгадаў часы, калі журфак яшчэ не меў сталага памяшкання і заняткі праходзілі ў будынку сталічнай школы № 17.


Фота Кастуся Дробава

Людміла Саянкова з новай кнігай.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, кінематаграфіст-дакументаліст Анатоль Алай праз усё жыццё пранёс прывітую на журфаку любоў да кіно. З удзячнасцю ўзгадвае ён кіраўніка сваёй дыпломнай працы, выкладчыцу Інстытута журналістыкі Таццяну Арлову. З аматарскай кінакамерай аб'ездзіў увесь свет. Тэма кінаработ Анатоля Іванавіча — Вялікая Айчынная вайна і тыя, хто знік без вестак падчас акупацыйнай навалы. Сярод гэтых людзей апынуўся і яго бацька.

Таццяна Арлова, выпускніца 1959 года, аднакурсніца Васіля Зуёнка, Генадзя Бураўкіна, Сымона Блатуна, а таксама Міхася Стральцова, нарыс пра якога ўвайшоў у кнігу, з цеплынёй узгадала дружнае студэнцкае «сузор'е» тагачаснага «пісьменніцкага» журфака. Узялі слова ўдава М. Стральцова Алена Дзмітрыеўна, якая вярнулася ў Беларусь з Амерыкі, а таксама Галіна Багданава (Сачанка) і Таццяна Прановіч (Чыгрынава), якія напісалі ў кнізе пра сваіх бацькоў-пісьменнікаў.

**Яна ЯВІЧ**

# Cinema...

Беларускаму кінематографу нядаўна споўнілася 90 гадоў. З гэтай нагоды ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбыўся святочны паказ караткаметражных фільмаў беларускіх рэжысёраў, якія бралі ўдзел у Міжнародным кінафестывалі «Cinema Perpetuum Mobile» ў розныя гады. Каб папулярызаваць нацыянальны кінематограф, арганізатары фестывалю «Cinema Perpetuum Mobile» стварылі секцыю, у якую ўвайшлі толькі беларускія карціны.

Праграму святочнага паказу склалі дзесяць караткаметражак. Сярод іх — анімацыя «Савяня» Вольгі Вахонінай, «Мануфактура» Аляксандра Танана, «Фокус» Марыі Матусевіч, «Калі можа кот» Марыяны Рудаковай. Быў паказаны эксперыментальны фільм «Belarusization» рэжысёра Аляксея дэ Бронхе, а таксама дакументальны «Андрусь Такінданг. Спынюся на сярэдзіне» Ігара Чышчэні, прысвечаны вакалісту гурта «Reha». Прадстаўлена ігравое кіно: «Кірляндыя» Ільі Бажко, «Каханне кожны дзень» Мікіты Лаўрэцкага, «Поцемкі» Арцёма Лобача, «Пары» Сяргея Каласоўскага.

Гледачы мелі магчымасць сустрэцца з рэжысёрамі, абмеркаваць убачанае, задаць творцам пытанні.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Душа адгукаецца

Прэзентацыя паэтычнага зборніка пісьменніцы і журналіста Ірыны Тулупавай "Чую і адгукаюся" адбылася ў бібліятэцы № 22 у межах літаратурнага клуба «Шчырасць».

Піша І. Тулупава па-беларуску. Творы, напоўненыя лірызмам, любоўю, шчасцем, дабром, раскрываюць сутнасць чалавечых паводзін, пачуццяў, перажыванняў. Падчас прэзентацыі аўтарка чытала вершы, расказвала цікавыя гісторыі з жыцця, паказвала фатаграфіі з пісьменніцкай паездкі ў Стамбул.

Кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў пазнаёміў прысутных з творчасцю пісьменніцы. Тонкі і глыбокі ўнутраны свет Ірыны Тулупавай адкрылі для сябе наведвальнікі клуба «Шчырасць»: курсанты ваеннай кафедры сувязі БДУІР, навучэнцы СШ № 25 ды іншыя аматары прыгожага беларускага слова.

**Раіса РАЧЫНСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**12 студзеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Алінай Легастаевай. Імпрэза адбудзецца ў зале Савета ветэранаў ЖЭСа № 28 (вул. Галадзеда, 26). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**13 студзеня** — *на пасяджэнне клуба мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5, каб. 308). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 студзеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым, якая адбудзецца ў актавай зале гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**10 студзеня** — *на чытацкую канферэнцыю па кнізе Алеся Карлюкевіча «І марам волю дам». Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей (аграгарадок Блонь, вул. Санаторная, 5). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**18 студзеня** — *на прэзентацыю калектыўнага зборніка ў 2-х частках «Праз восеньскі ажур» і песеннага дыска «Спатканне на світанні» абласнога клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца». Месца правядзення — Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна (г. Мінск, вул. Гікала, 4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

# Калядныя забаўкі

У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адкрылася выстаўка «Калядныя замалёўкі». Экспазіцыя створана па выніках аднайменнага конкурсу на лепшы дзіцячы малюнак ці выраб дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на калядную тэматыку. Сярод работ — кераміка, бацік, выцінанка, роспіс па шкле, вырабы з пап'е-машэ, габелен, разьба па дрэве, малюнак. У конкурсе ўзялі ўдзел навучэнцы сталічных школ, гімназій, ізастудый і цэнтраў пазашкольнай адукацыі.

Адкрылася экспазіцыя калядным ранішнікам, падчас якога адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне аўтараў лепшых работ. У госці да дзяцей завіталі героі казак. Кожны ўдзельнік конкурсу атрымаў прыз.

***

Зладзілі свята і ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Сумесна са студэнцкім этнаграфічным таварыствам установа правяла Каляды для дарослых наведвальнікаў. Госці даведаліся пра гісторыю свята, пачулі калядныя спевы, дазналіся, як адзначаюць Каляды ў нашай краіне на працягу апошніх гадоў.

У музеі адбыліся і Калядкі для самых маленькіх. Дзеці вадзілі карагоды з каляроўшчыкамі, спявалі ды танчылі, бралі ўдзел у гульнях, а таксама паглядзелі лялечны спектакль «У пошуках снягуркі» ды атрымалі падарункі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*Імпрэза*

# У імя жанчыны

**Напярэдадні Новага года і Каляд у Культурна-дзелавым цэнтры «Дом Масквы ў Мінску» адкрылася выстаўка мастака, члена Беларускага саюза мастакоў Аляксея Кузьміча (1945 — 2013) «Акрылены Мадоннамі».**

Аляксей Кузьміч — аўтар самай вялікай у свеце галерэі Мадоннаў. Яго пэндзлю належаць жывапісныя серыі «Залатыя Мадонны», «Палескія Мадонны», «У нямой гармоніі смутку» і мноства асобных палотнаў — «Чысціня» (1984), «Сонечны вецер» (1990), «Ачышчэнне» (1994), «У вечнай трывозе» (1996) і г. д.

У дыпломе Кнігі рэкордаў Расіі, краін СНД і Балтыі «Дзіва» пазначана: мастак «за 30 гадоў творчасці напісаў 700 (семсот) жывапісных палотнаў з вобразам Мадонны, што з'яўляецца сусветным рэкордам».

Доктар псіхалагічных навук, прафесар Любоў Шумская падкрэсліла: у аснове твораў Аляксея Кузьміча — глыбінная філасофія і псіхалогія трапяткога, узвышанага стаўлення да жанчыны, да маці, якое суправаджала мастака ўсё жыццё. Пра значэнне творчасці Аляксея Васільевіча ў айчынным і сусветным мастацтве прысутным распавёў яго сын, член Саюза мастакоў Расіі Аляксей Кузьміч-малодшы.

Кінааператар, рэжысёр, сцэнарыст, акцёр, старшыня прадзюсарскага цэнтра «Universe» Юрый Ялхоў прадэманстраваў прысутным сертыфікат, які пацвярджае, што імем Аляксея Кузьміча названа галактыка на адлегласці 12 тысяч светлавых год ад Зямлі.

Пасля адкрыцця выстаўкі адбыўся вечар класічнай музыкі, прымеркаваны да юбілеяў рускіх кампазітараў — 170-годдзя з дня нараджэння Мікалая Рымскага-Корсакава і 175-годдзя з дня нараджэння Мадэста Мусаргскага — з удзелам піяніста, народнага артыста Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігара Алоўнікава, а таксама маладых оперных спевакоў Кацярыны Шчірц, Крысціны Нікалаевай, Вольгі Касцючэнка і Віктара Гайдукова.

**Яна ЯВІЧ**

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім дырэктара выдавецтва «Пачатковая школа» Наталлі Генадзьеўны ВАНІНАЙ з прычыны яе смерці.

Калектыў газеты «Літаратура і мастацтва» выказвае шчырыя спачуванні члену рэдкалегіі «ЛіМа» Івану Фёдаравічу ШТЭЙНЕРУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.

## Аксана ЯРАШОНАК



## Санкт-Пецярбургу

Прыгожы па-сучаснаму.
Суровы па-паўночнаму.
Даўно на памяць ведаеш
расповеды Нявы.
Тваімі брукаванкамі
у задуменні крочу я.
Пад шэрымі каменнямі —
паданні дзён сівых.

Скрозь гул машын-тралейбусаў
мазурка раптам чуецца.
Адкуль яна? Няўжо адтуль?
Ад царскага двара?..
Усхліпнуць хвалі цёмныя.
І прыгадаюць вуліцы,
Як гучна стукаў некалі
каваны бот Пятра.

Сустрэчу нашу ў памяці
надоўга захавала я.
І сёння адчуваецца
салёны пах Нявы.
Ты мне даруй, Санкт-Пецярбург,
радкі недасканалыя,
Бо ў вершы варта ўсё ж было б
назваць цябе на Вы.

## На Палацавай плошчы

Гісторыяй спавітыя
Палацавыя вежы.
На дахах старажытных
Амаль спыніўся час.
Магніцікі, набытыя
На неўскім узбярэжжы,
Так часта з успамінамі
Сюды вяртаюць нас.

***

Дакранаючыся пуантамі
Да халоднага тратуара,
Так няспешна сняжынкі падалі
З-пад высокай ссівелай хмары.

Накрывалі пяшчотна вуліцы,
Кожны дах аздаблялі з густам,
І, прахожых у твар цалуючы,
Раставалі на цёплых вуснах,

Завірухаю хваляваліся
І кружыліся нада мною,
І шапталі ўсё: — Дачакаешся
Ты сустрэч са сваёй вясною.

## Эгаістычнае навагодняе пажаданне

Электрычнымі гірляндамі
Зіхаціць увесь праспект.
Значыць, хутка нас узрадуе
Барадаты снежны дзед.

Сімпатычную Снягурку я
Намалюю на акне.
Хай дзядуля з падарункамі
Не забудзе пра мяне.

## Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ



## Кашуля

Не ніткай чырвонаю вышыта,
А лёсам Радзімы маёй:
Стараннем жаночым
і крыжыкам,
Здавён паяднаных з зямлёй.

Кашуля мая, вышываная!
— З табою мне дыхаць лягчэй,
Бо ты — мая мара жаданая —
Узор улюбёных вачэй.

Абдымеш ты плечы матуляю,
Каханкаю ў вочы зірнеш...
З табою не страшна пад кулямі
Мне скласці апошні свой верш.

Бо ты не чужая, а родная —
Ад шэпту крыніц і дуброў,
Ад песень, дзе доля народная
Шукае спрадвеку дабра.

## Сцежка кахання

Вясна дарыла нам усмешку,
Сушыла ветрам валасы.
А мы з табой квяцістай сцежкай
Ішлі па лузе да вясны.

Ірвалі лотаць і пралескі,
Шукалі ў небе жаўрука.
Глыталі водар траў палескіх
І неслі песні на руках.

Хвіліны першага кахання —
Бы той гадзіннік завадны,
Што нас утрымліваў да рання
Ў палоне мар каля вады.

Нам асвятлялі ўночы зоркі,
Сцяжыны, кветкі і палі.
І голас твой дзявочы, звонкі,
Быў самы любы на зямлі.

## На Прыпяці

Плячысты дуб нас шчыра прытуліў,
Схаваў ад спёкі ў аксамітнай кроне.
Адсюль відаць і прыпяцкі заліў,
І лодку з рыбакамі на Затоне.

Пясчаны бераг, вербы ля вады
І бег імклівы залацістай хвалі...
Зязюля зноў куе мае гады
І разам з тым гады мае хавае.

На Прыпяці касцы і рыбакі —
Для кожнага тут знойдзецца работа.
На Прыпяці купальскія вянкі
Спяваюць песні па цнатлівых нотах.

Яны плывуць туды, дзе горды Кій
Каля Дняпра свае палацы ставіў...
О, маці-Прыпяць! — веры не пакінь,
Бо ад яе і Днепр дабрэйшым стане.

## Успамін пра сябра

Толя Сыс на маім вяселлі
Быў адзін, бы лісток асенні;
Ні жаны, ні дзяцей, ні ўнукаў —
Верш самоты ў бакале грукаў.

А ў вачах — па айчыне слёзы,
Па Дняпру, што цячэ ля хаты...
Клён сівы там шаптаў бярозам,
Што не стала ў паэта таты,

Што пляменнікі маладыя,
Бы дубкі, паляглі раптоўна.
А сляза на зморшчыны стыне,
Бы льдзінка на целе чоўна.

Гэты боль абвастрыў хваробу:
Незагойную думак язву.
Ён глытаў то віно, то соду,
А яны выклікалі спазмы.

Ах, Радзіма, навошта ж гэтак
Ты пакрыўдзіла так паэта:
Перакрэсліла ўсе дарогі,
Не абмыла паэту ногі?

## Казімір КАМЕЙША



***

А няма зімы былой,
За акенцам дождж хвошча.
І сяджу я за сталом,
Маладым гадам зайздрошчу.

Стол настрою паддае,
А пра што вядзе гаворку?
Пра няўдачы ўсе мае
Ды пра старасць-панікёрку.

Сам сабе не дагаджу,
Ды ва ўгоду агароду
То вымольваю дажджу,
То ізноў прашу пагоды.

Нешта ные і баліць,
У баку часамі коле.
А шалёнымі былі
Маладосці маёй коні.

Аж шумеў вясёлы гай —
Так імчалі апантана.
Я ж іх сам і запрагаў,
Распрагаць яшчэ іх рана.

Я не той, што быў раней,
І пад кроплю моцы горкай
Закалыхвае мяне
Тая старасць-панікёрка.

Ну а ніць, што дзень прадзе,
З кожным раннем карацее.
Ды нядзеля зноў ідзе.
На нядзелю ўся надзея!..

***

Я зноў нанова гэты шлях,
Як твор забыты, перачытваў.
Але па-новаму з вусля
Плыла пчаліная малітва.

Маю дарогу па вясне
Пабіла ямамі паводка.
І ў той дарозі, і ў мяне
Даўно змянілася паходка.

А ў пушчы даўні чуйны слых
Здалёк яшчэ твой крок прыкмеціць.
Ды столькі іх, сяброў маіх,
Сышлі, даўно ўжо ў іншым свеце.

Аж страшна глянуць у акно
І твар знаёмы не пабачыць.
Да бляску вымыта вясной,
Яно ўсміхаецца ды плача.

Стаміўся даўні дом ад сну,
І нешта сняць старыя рэчы.
Як проста ўсё ж мінуць вясну —
Нібы па кладачцы прабегчы.

***

Паліў вазон,
Ліст ажывіў самотны,
А дзень касу нясе і просіць клёпу.
Вы кажаце, жыву я бесклапотна.
Вазоны паліваць — таксама клопат.

Але не ўсцешыць гэтым гаспадыню,
Яна мой жарт самому мне пакіне.
А што каса? Хай трохі патрывае,
Хоць і трава на двор мой наступае.

Дык што — кляпаць?
Ці, можа, пачакаць?..
Галоўнае — вазон не паламаць...

***

Характар лясны
У вясны.

А вочы яе — з вярбы,
А слёзы — з бярозы,
А сэрца — з журбы.

А што мне трэба яшчэ,
Лясному?
Ды захацелася мне чаго?
Ой, не кажыце вы салаўю тому,
Што не даслухаў я песню яго
І недзе адразу паплёўся ў зіму.
Чаму?

Таму што ў мяне характар лясны,
Як і ў вясны.

***

Я — селянін усяго.
Не зайздросце мне.
Як доля, спрацаваны рукі мае.
Зямля мне баліць у грудзях,
Пад пазногцямі,
Бо вечна хапаюся за яе.

***

Нарэшце прыйшоў і Ян,
Віншую я чаркаю пана.
Прынёс мне ён ягад збан
І нават аддаў паляну.

Мой дзень мне спачыць не дае,
А збан мой рассыпаў чарніцы.
І вусны, і вочы твае
Чарнечыя, бы ў чараўніцы.

Ды не, не жалоба вакол,
А чорнае рэха рагоча.
Скрозь чорная слодыч, якой
Ты нават зімою захочаш.

Чарнечы духмяны сувой
Да самых нябёс разасланы.
І Афрыку ўсмешкі тваёй
Мне сёння падносіць паляна.

І зноў вечаровіцца лес,
І творыцца штосьці незямное.
Чарнечае, спелае спрэс
Над сумнай маёй сівізною...

Фота Кастуся Дробава





Валеры ГАПЕЕЎ

# Першы «Напалеон»

— Парэзаць табе? Вялікімі кавалкамі, малымі? — Воўчык, задыханы, ставіць шэрую кардонку з тортам на абшарпаны брудна-белы пластык нашага адзінага ў пакоі стала. Хапае нож, тонкія доўгія Воўчыкавыя пальцы падрыгваюць, калі ён рэжа аборку — рэжа, спяшаецца...

— Як ні рэж, усё роўна з'ем, — насмешліва цягне Рыбак, які стаіць задаволена побач, усунуўшы рукі ў кішэні штаноў і пакалыхваецца ўзад-уперад. А яго глыбока пасаджаныя невялікія вочы пад выразнай чорнай паласкай зрослыхся броваў алейна блішчаць, задаволеная ўсмешка расцягвае і без таго шырокі скуласты твар.

Воўчык раскрывае кардонку. Торт вонкава дык і не вельмі прывабны. Наш, просты бісквітны, які мы нядаўна з'елі, быў размаляваны рознакаляровым крэмам амаль урачыста. Але за вонкавай прастатой «Напалеона» адчуваецца яго нейкая ўнутраная асаблівасць. Нешта ёсць у ім самавітае, прыхаванае. Нездарма ж ён такі дарагі... Ніколі такі не спрабавалі, толькі чулі, які ён смачны, найсмачнейшы з усіх...

А Воўчыка ніколькі не хвалюе торт і яго выгляд. Ён рашуча, з прыхаванай злосцю, б'е нажом у сярэдзіну торта, быццам у які тоўсты вясковы блін, рэжа неахайна на дзве часткі, рассоўвае іх спецыяльна, каб нам паказаць.

І мы глядзім на нябачанае раней: пласты тонкага залацістага цеста чаргуюцца з белым, пяшчотным крэмам. Рыбак задаволена хмыліцца:

— Ну, глытайце сліны, пацаны! А я буду есці!

Воўчык яшчэ і яшчэ раз рэжа адну частку торта, рэжа амаль азвярэла. Торт вельмі свежы, крэм выціскаецца са слаёў... Эх, каб хоць паспытаць! Нам усім зараз вось здаецца, што і сам бы ён з'еў адзін гэты торт…

...Галодны студэнт — безразважны студэнт. Стыпендыя толькі заўтра, а грошы ў нас скончыліся яшчэ ўчора. Студэнты-першакурснікі заўсёды галадаюць — занадта шмат іншых спакус у горадзе для ўчарашніх вясковых дзяцей, акрамя ежы. Сёння мы намецілі аперацыю «Крышталік» — збор і здачу бутэлек. Рыбак, шосты ў нашым інтэрнацкім пакоі, толькі пакрывіўся зранку ад нашай ініцыятывы і сказаў:

— Ну, я пайду чайку пап'ю з каўбаскай… Пад маім ложкам недзе закацілася, дазваляю дастаць…

І пайшоў сабе. Збіралі мы бутэлькі ўпяцёх: я, Мішка-Карлсан — невысокі ростам, але шыракаплечы мацак, да таго ж не з баязлівага дзясятка, Раман — ціхі і спакойны хлопец, Санька — наш асілак, наша абарона ад іншых першакурснікаў, то дзякуючы яму наш пакой не спазнае многіхпературбацый. І Лявон, самы разумны з нас — матэматык, на яго ўся надзея, як задачкі рашаць. Збіралі бутэлькі па сваім пакоі, а пасля — па пакоях іншых першакурснікаў. У інтэрнаце такі няпісаны закон: хто першы з раніцы пачынае аперацыю «Крышталік», таму можна пытаць бутэлькі па ўсіх пакоях, і калі там ёсць, то павінны аддаць. Ну і, канечне, запар два разы не пойдзеш збіраць. Ды і клопат немаленькі: усе перамыць, прасушыць, а потым на аўтобусе цягнуцца ці не ў другі канец горада, а пасля яшчэ пешкі. А там чарга велізарная, уважліва трэба сачыць за ўсім. Не кожнаму такое даспадобы. Але ж есці хочацца…

…На пяцярых выйшла амаль тры рублі. Пайшлі ва ўніверсам. І застылі ў аддзеле тартоў і пірожных. Мішка-Карлсан і выказаў тое, што ва ўсіх слінавілася ў роце:

— Купім торт! Вунь, за 2.20. Намяняем дробязі і нап'емся газіроўкі. Торт з'ямо ў інтэрнаце.

— Па добраму кавалку выйдзе! — падтрымаў Мішку разумнік Лявон. — А торт каларыйны, з'ясі кавалак — і есці не хочацца.

— Батон яшчэ купім, — дадаў гаспадарлівы Мішка. — Чаю пап'ём вечарам…

Купілі. Неслі торт літаральна крадком. А як інакш? Тут толькі пабачаць на калідоры нешта смачнае ў руках — чакай гасцей. А не падзяліцца не па-таварыску…

Торт зусім і невялікі. Мы за сабой зачынілі ўжо дзверы, тут Воўчык прыйшоў, наш, з групы, але гарадскі хлопец. Бо ўчора дамаўляліся «Тысячу» распісаць. Ну, як Воўчыка не пачаставаць? А тут грук у дзверы — Рыбак. Крычыць гучна: «Адчыняйце!»

Не любім мы Рыбака. Ганарысты, нахабны і курчыць з сябе… Хоць кожны з нас быў бы смелы, як Рыбак, калі б у яго быў старэйшы брат, пасля арміі на чацвёртым курсе у адным з табой тэхнікуме вучыўся ды яшчэ і жыў з табой у інтэрнаце, адно што на іншым паверсе. Рыбак галодным не бывае, вось чаму з намі бутэлькі па шафах і пад ложкамі не вышукваў, не мыў іх, а зранку пайшоў да брата паесці…

— А! Я таксама торта хачу, мне адрэжце! — закрычаў ад парога Рыбак, пацягнуўся рукой да стала.

— Рыбак, ты бутэлькі не збіраў, — паспрабаваў абараніць наш агульны торт Санька.

Санька — хлопец добры, Рыбака ён асабліва не баіцца, але абыходзіць яго, як кучу дзярма на дарозе.

— Ты што гоніш, пацан? — выскаліўся Рыбак быццам і смехам, і лагодна, а вочы выдаюць: прымружаныя, хіжыя. — Ды я цябе заўтра так тортам накармлю...

Закон ёсць закон: Мішка-Карлсан рэжа торт на сем кавалкаў, закрыўшы яго ад нас спінай.

— Бяром! — кажа ён, сам прыхапіўшы сабе кавалак і, быццам незнарок, адступіў так, што перагарадзіў дарогу да стала Рыбаку.

Мы як па камандзе пахапалі парэзаныя кавалкі. Рыбаку самы маленькі дастаўся. Ён яго пракаўтнуў ці не цалкам, вочы закаціў:

— Я б такі торт адзін з'еў...

— Морда трэсне, — спакойна заўважыў Воўчык, акуратна адкусваючы ад свайго кавалка.

— У мяне? Ды я ведаеш, колькі магу?

Воўчык дажаваў адкусанае, выцер рукі, прысеў за стол, які намі ўжо старанна выцерты, і стаў тасаваць калоду карт пад раздачу.

— Мне не цікава, колькі ты можаш. А я цярпець не магу, калі брэшуць на публіку. Гнаць не трэба, я табе не пацан.

— Я ганю? Я брашу?! — злосна натапырыўся Рыбак.

— Гоніш. Гаўкаеш, — без ценю хвалявання адказаў Воўчык.

— Гэта ты гоніш! — пырскнуў слінай Рыбак.

— Ты за базар адказваеш! — раптам рашуча падняўся Воўчык, выцер рукавом нябачныя кропелькі на твары..

Воўчык худы, цыбаты. Ён нармальны хлопец, гарадскі, але не задавака. Вучыць нас правілам тутэйшага жыцця, распавядае пра тое, дзе і ў які час лепш не з'яўляцца ў горадзе, колькі дробязі з грошай мець у кішэні і даваць, калі ўсё ж «тармазнуць» мясцовыя і прымусяць паскакаць — так правяраюць, ці бразгаюць манеты ў кішэнях. Воўчык вырас у рабочым пасёлку горада, ён распавядае пра жыццё там, і мы іншы раз вылупляем вочы: у нашых правінцыяльных мястэчках і вёсках жыццё было такім патрыярхальным і ціхім. А тут такія рэчы творацца!

Цяпер Воўчык стаяў насупраць Рыбака, гучна пстрыкаў пальцамі — нерваваўся. Ён заўсёды, нават пры адказах на занятках, калі нервуецца, пстрыкае сваімі доўгімі тонкімі пальцамі. І тады нервуюцца выкладчыкі.

— Адкажу, — хмыкнуў Рыбак. — Няма чаго адказваць. Давай торт. І даражэйшы які, а не такую дробязь, на раз укусіць.

— Добра... — Воўчык збялеў, загаварыў выразна, па слове. — Зараз я іду ва ўніверсам. Куплю торт. «Напалеон». Ён каштуе два восемдзесят. Прыношу. Ты яго жарэш адзін. Калі не з'ядаеш — вяртаеш мне грошы, а сам ідзеш і яшчэ купляеш торт. Потым залезеш пад стол і крыкнеш: «Я трапло і фуфло». Ідзе?

— Вядома! — рагатнуў Рыбак. — Будзе так: я з'ядаю торт, ты ставіш мне бутэльку чарніла, не, дзве бутэлькі, я цябе пачастую, гы… і ты вязеш мяне на спіне па калідоры інтэрната ад лесвіцы да майго пакоя. Хочаш у заклад? — І працягнуў млява руку.

— Добра!

Воўчык лёгка пляснуў далонню па раскрытай далоні Рыбака, імкліва накінуў куртку і знік за дзвярыма пакоя...

...Рыбак амаль не жуючы праглынуў першы невялікі кавалак торта. Цяпер ён жуе мерна, роблена выкочвае вочы ад задавальнення, крывіць рот ва ўсмешцы:

— Якая смаката! А крэм, крэм які... У роце растае...

Мы сядзім на ложках, што стаяць уздоўж сцен, глядзім, маўчым. У вялікім пакоі стаіць цішыня. Стол па цэнтры пакоя, ля яго сядзіць Рыбак, бярэ трэці кавалак, самы маленькі, вочы яго ўжо не льсняцца.

— Карлсан, бяжы, вады прынясі! Дам укусіць! — прапануе Рыбак Карлсану, шчэрыцца, быццам яму весела, але ж мы бачым, што Рыбак ужо не такі ўпэўнены, як тры хвіліны таму. Мішка-Карлсан, заўсёды гатовы зрабіць паслугу кожнаму па сваёй вясковай прастаце, выбухае:

— Пайшоў ты! Жары так, душыся...

Дзіўна, але Рыбак ніяк не рэагуе на словы Мішкі-Карлсана, быццам не чуе, не адчувае той хвалі варожасці, якая сыходзіць на яго ад усіх нас. Ён кусае ад чарговага кавалка, крэм выціскаецца, вусны і барада Рыбака тлуста блішчаць.

— Усё, наеўся!

Рыбак кідае закусаны кавалак, устае.

— Так, пацаны, можаце даесці за мной, дазваляю, — роблена паказвае ён рукой на дзве трацціны торта. — Воўчык, дзякую за службу, я нажэрся ад пуза! Першы раз з'еў столькі, колькі хацеў.

Ніхто з нас не падыходзіць да стала. Мы ўжо не глядзім на торт, мы чакаем. Мы лікуем амаль: чорт з ім, хай Рыбак не залазіць пад стол, але ён прайграў, ён балбатун. Хай нясе новы торт, хай аддае грошы.

— Не зразумеў, — Воўчык устае з ложка, пстрыкае нервова пальцамі: — Ты адмаўляешся далей есці?

— Ды вунь няхай даядаюць, — Рыбак ківае на нас, ухмыляючыся. — Я наеўся.

— Добра, — Воўчык робіцца сур'ёзным. — Ты мне зараз аддаеш за торт грошы, бяжыш у краму і купляеш яшчэ торт. А потым лезеш пад стол і...

— Ды пайшоў ты, — нацягнута смяецца Рыбак. — Ты што, жартаў не разумееш?

— Жартаў? — У Воўчыка бялее твар, пальцы рук пачынаюць дробна ўздрыгваць. — Мы пабіліся аб заклад. Я што табе, сабачка?

— Ды не, ты дурань, — яшчэ шырэй усміхаецца Рыбак, прыжмурваецца. — Ды не тузайся, у цябе грошай шмат, мамка дасць яшчэ.

— Так, пацан, зараз я цябе буду карміць, — так ціха кажа Воўчык, што ўсмешка імгненна знікае з запэцканага твару Рыбака.

Воўчык падыходзіць да стала, бярэ кавалак торта.

— Зараз ты яго сам жэрці будзеш! — З выклікам крычыць Рыбак і кідаецца да дзвярэй, не чакаючы, пакуль Воўчык зробіць крок.

Ляпаюць дзверы, чутно тупаценне ног па калідоры — Рыбак не пайшоў — пабег бягом…

Мы маўчым, агаламошаныя нахабнай подласцю.

— Зараз брата прывядзе, — выказвае Раман здагадку, і ніхто не спрачаецца: канечне, прывядзе брата. І ў гэтым — пагроза ўсім нам, не толькі Воўчыку. А так добра пачаўся вечар...

Нас ужо білі тут кожнага паасобку. Вучылі жыць па правілах інтэрната, паважаць старэйшых, імгненна адгукацца на іх просьбы. Клікалі ва ўмывальны пакой — і білі. І брата Рыбак ужо прыводзіў. Тады яны з Ромкам не падзялілі, чыя чарга прыбіраць у пакоі. І хоць праўда была не на баку Рыбака, ён напачатку прыгразіў, а пасля пабег па брата. Ромка потым увесь тыдзень прыбіраў і столькі ж хадзіў у цёмных акулярах, каб не свяціць падбітым вокам...

Дзверы адчыняюцца ўдарам нагі. Але гэта не брат Рыбака, гэта ён сам. Брат стаіць побач.

— Вось! Ён! — Рыбак тыцкае ў Воўчыка і, быццам той шакал з мультфільма пра Маўглі, саступае, хаваецца за спіну брата.

Брат Рыбака, Вадзім, такі ж шыракатвары — яны ўвогуле вельмі падобныя, але Вадзім — хлопец пасля арміі, дужы, моцны, дарослы. Ён цяпер п'янаваты, незадаволена крывіцца: яго напэўна ж адарвалі ад важнай справы, можа, ад гульні ў карты. Старэйшыя курсы гуляюць на грошы…

— Ну, пайшлі, — ляніва ківае Вадзім Воўчыку і паварочваецца.

Нам зразумела — ва ўмывальны пакой. Там Вадзім будзе біць Воўчыка. Як звычайна — да крыві.

Крыўда, нібы ваніты, запаўняе ўсё ўнутры мяне, і праз сціснутыя ў страху зубы раптам вырываецца сіплым крыкам:

— Рыбак сам вінаваты!

Вадзім застывае ў дзвярах, павольна паварочваецца, шукае вачыма мяне, знаходзіць.

— Ідзі сюды...

Падысці — значыць атрымаць удар. І не адзін. Вадзім, ведаем, б'е імкліва: у жывот і па шыі пасля ці ў твар і нагой у бок… Ды якая розніца, як будзе біць? Няхай падыходзіць і б'е! Сам я не магу скрануцца з месца. Выбухаю роспаччу і паўтараю, як замову:

— Рыбак сам вінаваты. Яны паспрачаліся з Воўчыкам. І Воўчык прынёс торт, які Рыбак абяцаў з'есці адзін. І не з'еў. А цяпер за торт не аддае грошы!

А Вадзім ужо стаіць каля мяне, дыхае ў твар. Ад паху часнаку і таннага чарніла мне раптоўна хочацца чыхнуць. А жывот ужо падціснула ў чаканні ўдару, мяне, здаецца, дробна трасе.

Я бачу сціснуты кулак. Але тут пры словах «не аддае грошы» ў Вадзімавых вачах, якія, прымружаныя, свідруюць мяне, быццам успыхвае нейкі сігнал. Вадзім застывае, цень ад думкі прабягае па яго твары, ён паварочваецца да Рыбака і пытаецца:

— Аб заклад біўся?

— Дык гэта жарт быў, Вадзік! Я ж пажартаваў. Во, спецыяльна, каб ён нам усім торт купіў, каб усе паелі, — спяшаецца казаць Рыбак, а яго злы позірк з нянавісцю свідруе мяне.

— Ніякі не жарт быў!

— Усё было па правілах, калі б ты торт з'еў, Воўчык табе павінен быў бы дзве бутэлькі віна і яшчэ на спіне вазіць.

— І па руках ударылі! Усе сведкі!

Гэта ўжо хлопцы, убачыўшы нейкі пробліск на справядлівасць, крычаць хутчэй. Вадзім быццам не чуе, яшчэ раз пытаецца ў малодшага брата:

— Заклад быў?

— Ну, так, жартам... — крывіцца Рыбак ва ўсмешцы.

Коратка размахнуўшыся, Вадзім рабром далоні б'е брата па шыі. Рыбак падае на калені, скуголіць:

— Дурны! Я мамцы раскажу! Каго ты бароніш!

— Пайшоў прэч, яшчэ пагаворым. — Вадзім без злосці лёгка тыцкае нагой у брата, Рыбак на карачках уцякае з пакоя.

Вадзім дастае з кішэні тры рублі, працягвае Воўчыку:

— На... З прыдуркам больш не спрачайся. Калі што — скажаш.

Потым паварочваецца да стала, бярэ надкусаны Рыбакам кавалак, пхае сабе ў рот.

— Смачны...

Нечакана лёгка тыцкае мне кулаком у грудзі:

— Не дрэйф, пацан!

І сыходзіць.

...Мы, не спяшаючыся, амаль што ўрачыста з'елі рэшткі торта — такога смачнага «Напалеона», цяпер з жарсцю гуляем у «Тысячу», і мне зараз шанцуе проста незвычайна. Можа, хлопцы падыгрываюць? Не, проста ідзе карта. Так бывае — проста шанцуе мне сёння...

*Адначаснікі*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Юрась

Я пазнаёміўся з ім яшчэ ў далёкіх сямідзясятых мінулага стагоддзя на адным з пасяджэнняў літаб'яднання «Крыніцы» ў Наваполацку. Зваршчык мясцовага завода жалезабетонных вырабаў Юрась Касцюк меў пышныя пшанічныя вусы і нагадваў хрэстаматыйны вобраз беларускага мужыка з прачытаных кніг: высокі, худы, жылісты.

Запомніўся ён адразу не толькі натуральнай сакавітай беларускай мовай, але і сваімі паэтычнымі радкамі, якія гучалі ў спрэс касмапалітычным тады Наваполацку і ў рэдакцыі адзінай у рэспубліцы рускамоўнай гарадской газеты досыць свежа і нават з пэўным выклікам:

*Завуць маю рэспубліку Бульбоніяй,*
*А беларусаў — бульбашы.*
*Так неяк крышачку з іроніяй.*
*А я скажу вам ад душы,*
*Што краем гэтым ганаруся*
*І ў рад з другімі смела стаўлю,*
*Заву ад сэрца Белай Руссю*
*І песнямі, і вершам слаўлю…*

Далей аўтар пералічваў, за што ён ганарыцца сваім краем, але гэтыя першыя радкі запомніліся так, што цытую іх па памяці больш як праз сорак гадоў.

Бацькі Юрася паехалі па шчасце і долю з родных Пліс, што на Глыбоччыне, асвойваць цалінныя землі ў далёкі Казахстан, а хлопец, адслужыўшы ў войску, прыехаў працаваць на слынную новабудоўлю, якая разгортвалася на полацкай зямлі. Юрась быў, бадай, адзін з нямногіх у маладым горадзе, хто паўсюль размаўляў па-беларуску, актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці свайго прадпрыемства.

Так сталася, што наша знаёмства хоць і не перарасло ў трывалае сяброўства, але вызначалася ўзаемнай прыязнасцю, сапраўднай таварыскасцю. Тым часам Юрась паступіў на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ, стаў працаваць у шматтыражцы, затым — у гарадской газеце «Химик», дзе вырас да пасады галоўнага рэдактара. Гэта пры яго непасрэдным удзеле адбываўся росквіт літаб'яднання «Крыніцы», куды прыйшлі маладыя цікавыя творцы — сёння каля дзясятка папулярных і вядомых сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Юрась, між тым, не надта клапаціўся пра ўласныя амбіцыі, быў такі ж таварыскі (часам нават занадта), чым карысталіся некаторыя так званыя сябры. Ды і талент свой ён не спяшаўся шліфаваць, спяваючы, як птушка — што на сэрца ляжа. Але глыбокі патрыятызм не губляў ніколі і заўсёды быў гатовы даць адпор тым, каму гэта не падабалася.

Ён двойчы прыходзіў мне на дапамогу ў складаныя часы. У вельмі цяжкую хвіліну, калі сур'ёзна захварэла мама, я застаўся без працы, і менавіта Юрась Касцюк угаварыў тагачаснага галоўнага рэдактара наваполацкай газеты ўзяць мяне літсупрацоўнікам, а затым, калі яму прапанавалі работу ўласным карэспандэнтам Беларускага радыё, адмовіўся на маю карысць. Дакладней, не на карысць (бо я ў гэтыя кандыдаты і не разглядаўся), а нават паручыўшыся за мяне.

Гэта было яшчэ больш каштоўна і высакародна, бо я, не ведаючы гэтых акалічнасцей, нічога ў яго не прасіў. Зазначу, што да пасады гэтай на месцах ставіліся з вельмі вялікай пашанай, і трэба было шмат узгадненняў ды выпрабаванняў, каб яе заняць.

Увогуле, мне пашанцавала на прыхільнасць і сяброўскую падтрымку людзей, пра што я ніколі не забудуся. І сярод іх на адным з галоўных месцаў — сціплы, памяркоўны, сапраўдны беларус — Юрка, Юрась, Георгій Васільевіч Касцюк.

# Таямнічыя пячоры

**Маладыя беларускія фантасты заявілі пра сябе ў 2014 годзе новымі кнігамі. Гэтай прыемнай падзеі папярэднічала пэўная гісторыя. Пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі ў 2009 годзе была створана секцыя прыгод і фантастыкі, якую ўзначаліў празаік Уладзімір Кулічэнка. Трэба прызнаць, што секцыя плённа працавала ўсе мінулыя гады, у выніку ў выдавецтве «Харвест» у серыі «Беларуская сучасная фантастыка» было выдадзена каля двух дзясяткаў кніг на беларускай і рускай мовах. Яны сталі добрым унёскам у айчынную літаратуру, тым больш што стваральнікі — сталыя аўтары, даўно вядомыя не толькі ў Беларусі.**




**«Панацэя», Андрэй Болатаў:** у кнігу ўвайшлі аднайменны раман і тры апавяданні. Гэта цікавая афарыстычная проза, дзе адчуваецца тонкае разуменне жыццёвых калізій і псіхалогіі персанажаў. Творы маюць лагічна выбудаваны сюжэт і адначасова не пазбаўлены мастацкасці.

У 2010 годзе Саюз пісьменнікаў абвясціў конкурс маладых фантастаў. Узрост удзельнікаў — ад 18 да 30 гадоў. Праводзіўся ён з мэтаю пошукаў новых таленавітых аўтараў і адкрыцця іх беларускаму чытачу. Можа, наіўна было чакаць, што знойдуцца маладыя людзі, здатныя напісаць у юным узросце вялікі фантастычны раман, тым больш што ўсе яны вучацца або працуюць, а для напісання вялікага па памерах твора патрэбна шмат вольнага часу і спрыяльных умоў. Аднак спадзяванні старэйшых пісьменнікаў рэалізаваліся. На адрас секцыі прыгод і фантастыкі прыйшлі празаічныя творы, розныя па аб'ёме і даволі разнастайныя па змесце і тэматыцы. Журы конкурсу ўважліва разгледзела атрыманую пошту, былі вызначаны фіналісты, якія займелі магчымасць выдаць свае першыя кнігі ў выдавецтве «Харвест» у серыі «Новая беларуская фантастыка».

Сёння іх можна набыць у кнігарнях. Гэта «Панацэя» Андрэя Болатава, «Дары Дракона» Кацярыны Войнікавай і «Незлічоныя скарбы таямнічай пячоры» Дзмітрыя Саўчыка. Асабіста ў мяне па прачытанні твораў засталося добрае ўражанне, якім хачу падзяліцца з чытачамі «ЛіМа».

У кнігу Андрэя Болатава «Панацэя» ўвайшлі аднайменны раман і тры апавяданні. Гэта цікавая афарыстычная проза, дзе адчуваецца тонкае разуменне жыццёвых калізій, псіхалогіі персанажаў і іхніх паводзін у розных сітуацыях. Сюжэт рамана добра прадуманы, лагічна выбудаваны. І адначасова не пазбаўлены мастацкасці — той самай фантастычнасці, праз якую прагледжваюць вобразы хцівых чыноўнікаў і генералаў, што любяць «пагрэць рукі» пры ўсялякай зручнай магчымасці. Выяўляючы напускны патрыятызм, яны застаюцца пры гэтым найболей заклапочаныя ўласным матэрыяльным узбагачэннем і кар'ерным ростам...

Не хочацца пераказваць сюжэт рамана, бо чытачы, зацікаўленыя кнігай, самі пазнаёмяцца са зместам і, спадзяюся, атрымаюць задавальненне.

Удала выкарыстоўвае А. Болатаў у якасці эпіграфаў да кожнага раздзела выказванні вядомых гістарычных асоб і пісьменнікаў, а іншым разам — персанажаў свайго рамана. Адзначу толькі некалькі афарызмаў, дасціпна пададзеных аўтарам (кніга рускамоўная, пераклад эпіграфаў на беларускую мову мой): «Няма лекаў ад усіх хвароб, затое дастаткова хвароб ад усіх лекаў»; «Калі ўжо чалавек перайшоў на асобы, ён ідзе па іх да канца»; «Усяму прыходзіць канец. Толькі іншы раз нечаканы…» Апавяданні з «Панацэі» яскрава паказваюць, як умее аўтар




**«Дары Дракона», Кацярына Войнікава:** кніга грунтуецца на чараўніцтве і інтрызе, якая вытрымліваецца да апошняй старонкі. У творы яўна чытаецца папярэджанне недальнабачнаму чалавецтву, якое не ўмее ўтаймаваць сваю агрэсіўнасць. Героі існуюць у свеце постапакаліпсісу, і ў такіх экстрэмальных умовах няма гаворкі пра каханне — толькі вечны Дракон пясціць у душы светлыя пачуцці, але і ён асуджаны на вынішчэнне.

пераўтвараць звычайныя праявы жыцця ў фантастычныя падзеі. Мне падаецца, што Андрэй Болатаў мог бы пісаць цікавыя прыгодніцкія і фантастычныя творы на тэмы з беларускай гісторыі.

Кніга Кацярыны Войнікавай «Дары Дракона» грунтуецца на чараўніцтве, загадках і цікавай інтрызе, якая вытрымліваецца да апошняй старонкі. Са зместу твора вынікае і папярэджанне на адрас недальнабачнасці чалавецтва, якое ніяк не можа ўтаймаваць сваю агрэсіўнасць. Зрэшты, падзеі ў творы адбываюцца праз тысячу ці болей гадоў пасля знішчальнай вайны, і выжылі толькі некаторыя суполкі людзей, якія здолелі схавацца ў пячорах. Насельніцтва планеты спрабуе адрадзіць былы разнастайны свет прыроды, але, на жаль, далёка не заўсёды і не ўсім гэта ўдаецца, у выніку з'яўляюцца хімеры — недаўгавечныя і выродлівыя экзэмпляры. У такіх экстрэмальных умовах няма гаворкі пра каханне і высокія пачуцці, усе засяроджаны на прадаўжэнні роду і «паляпшэнні пароды», толькі вечны Дракон яшчэ пясціць у душы светлыя пачуцці, але і ён асуджаны на вынішчэнне. Страшная катастрофа не навучыла насельніцтва планеты ні справядлівасці, ні дабру. Кацярына Войнікава ўмела выкарыстала веды, набытыя ў асноўнай прафесіі хіміка і эколага, і ўдала дэбютавала сваёй першаю рускамоўнай кніжкай.

Кніга малодшага фіналіста конкурсу фантастаў Дзмітрыя Саўчыка «Незлічоныя скарбы таямнічай пячоры» складаецца з дзвюх казак-фэнтэзі, якія апавядаюць пра вялікае каханне і падступнае вядзьмарства, жорсткасць зла і вялікую сілу дабра, здатнага перамагаць усе перашкоды. Мультыплікацыйныя творы напісаны дынамічна і вынаходліва, па іх можна было б паставіць яскравыя фільмы з камп'ютарнымі спецэфектамі. Нягледзячы на тое, што аўтару няма яшчэ і трыццаці, ён праз персанажаў казак мудра вызначае формулы шчаслівага жыцця: «Толькі сэрцу свайму трэба верыць. Толькі яно ведае праўду»; «Той, хто адмовіцца ад багацця, будзе непадуладны ні дэманам, ні прывідам».

Кніга насычаная прыгодамі і чарамі, здатная ўтрымліваць увагу чытача. Радуе, што напісаная яна па-беларуску, але засмучае мноства русізмаў у тэксце. Усім, хто адчувае сябе беларусам і хоча пісаць па-беларуску, раю запасацца слоўнікамі і граматыкамі ды вывучаць родную мову самастойна, як і я рабіла ў свой час.

Аб'ядноўвае кнігі адна акалічнасць: месца дзеяння выбранае аўтарамі за межамі роднай краіны. Андрэй Болатаў пасяліў сваіх персанажаў у стэпе прыдуманай імперыі, Кацярына Войнікава — у азіяцкай пустыні, Дзмітрый Саўчык — на халоднай поўначы. У ліку адмоўных дзеючых асоб выступаюць гномы, тролі, эльфы, вядзьмаркі і розныя пачвары, а таксама мае месца іншапланетнае ўздзеянне. Міжвольна падумалася: ці варта беларускім аўтарам выкарыстоўваць гэтых шырока вядомых персанажаў заходнееўрапейскай і амерыканскай літаратуры і кінапрадукцыі? Кожны народ праз літаратуру, жывапіс, тэатр, кіно,




**«Незлічоныя скарбы таямнічай пячоры», Дзмітрый Саўчык:** кніга самага малодшага фіналіста складаецца з дзвюх казак-фэнтэзі, якія апавядаюць пра вялікае каханне і падступнае вядзьмарства, жорсткасць зла і вялікую сілу дабра, здольнага перамагчы ўсе перашкоды.

тэлебачанне павінен несці ў свет асабістае, адметнае, уласцівае толькі яму.

Спадзяюся, што ўрэшце з'явяцца новыя фантастычныя творы, якія зажывуць на роднай глебе, задыхаючь водарам баравога паветра. Сярод міфічных персанажаў беларускай міфалогіі шмат не толькі адмоўных, але і станоўчых, што ахоўваюць людзей, жытло, дапамагаюць ва ўсялякай прыгодзе. Яны па-свойму прыгожыя і высакародныя, змагаюцца са злом і, безумоўна, перамагаюць.

Трэба аддаць належнае старшыні секцыі «Прыгод і фантастыкі» Уладзіміру Кулічэнку, які не шкадуе энергіі і часу для падтрымкі даручанага яму сектара, што прыносіць добрыя вынікі.

Зінаіда ДУДЗЮК

# Ёсць квіток на Марс?




Першы нумар часопіса фантастыкі «Касмапорт» выйшаў у 2013 годзе, і ўжо ў 2014-м ён стаў лепшым фантастычным часопісам Еўропы, узяўшы перамогу на 36-м канвенце EuroCon у Дубліне і атрымаўшы прэмію ESFS Awards-2014.

Ільвіную долю тэкстаў часопіса складаюць мастацкія творы. Але ёсць і выключэнне — публікацыі, якімі кожны з нумароў адкрываецца і закрываецца. Так, да першых (калі казаць пра выпускі мінулага года) адносяцца тэксты з рубрыкі «Станіслаў Лем пра...». Вядучы рубрыкі Віктар Язневіч перакладае і каментуе крытычныя працы класіка, такім чынам выконваючы адразу дзве важныя задачы: па-першае, раскрывае з іншага боку асобу Станіслава Лема, яго погляды на свет і мастацкія густы; па-другое, знаёміць чытача з іншымі аўтарамі, якія, можна лічыць, маюць адзнаку якасці, бо на іх звярнуў увагу сам Лем. Так, сярод іх — Роберт Ханлайн, Філіп Дзік, Альфрэд Ван Вогт. І нават калі чытач даўно знаёмы з названымі прозвішчамі, яму адкрываецца магчымасць параўнаць сваю ацэнку творчасці таго ці іншага фантаста з ацэнкай Станіслава Лема.

Завяршае кожны выпуск невялікае эсэ, «фантазія на тэму». Напрыклад, якім чынам дыназаўры сталі продкамі птушак? Ці маглі старажытнаіндыйскія лётныя апараты віманы быць звязаны з Бабай-Ягой? Ці можа перабудова жыццё хома людэнс у суцэльную гульню? Адметна, што гэтыя эсэ — як і навуковую фантастыку ў цэлым — нельга назваць чыстай выдумкай, бо грунтуюцца яны на навуковых фактах і не парушаюць законаў логікі.

Таксама адметна, што пасля прачытання часопіса не ўзнікае эфекту казачнасці, нерэальнасці апісанага. Наадварот: у вас застаецца трывалае адчуванне, што ўсё гэта можа мець месца ў сапраўднасці. Як тут не згадаць класічны прыклад: 1863 год, Жуль Верн піша кнігу «Парыж у XX стагоддзі», дзе «стварае» аўтамабіль, факс і электрычнае крэсла, а выдавец крыўдна абзывае яго і вяртае рукапіс. Што праўда, фантазіі аўтараў «Касмапорта» часцей за ўсё песімістычныя (калі не апакаліптычныя) і пра спраўджванне іх наўрад ці нехта стане марыць, у тым ліку самі аўтары. Цікава: ці не з'яўляюцца такія змрочныя фантазіі спробай перажыць катастрофу завочна? Прадухіліць яе? Калі так, прэмія слыннага Еўракона болей чым заслужаная.

Нягледзячы на песімістычныя прагнозы, якія даюць аўтары «Касмапорта» (а сярод іх — амерыканцы, беларусы, расіяне, кітайцы, скандынаўскія аўтары, словам — фантасты ўсяго свету), жаданне закрыць часопіс і ніколі больш да яго не вяртацца не ўзнікае. Апавяданні і эсэ на яго старонках, яркія, запамінальныя гісторыі з арыгінальнымі сюжэтамі, неадназначнымі героямі і праблемамі заўжды актуальнымі. Гэта не толькі барацьба героя са знешнім злом, якое зазвычай паўстае ў форме абесчалавечаных істот, пазбаўленых найлепшых нашых пачуццяў — спачування, любові, жалю, самаахвярнасці ды іншых, менш высакародных, але не менш «родных». Барацьба разгортваецца і ў саміх героях, хоць і не так часта, як, магчыма, хацелася б чытачу. Акрамя таго, аўтары не настойваюць на сваім пункце погляду. Яны заўжды пакідаюць альтэрнатыву,




даюць слова героям з процілеглым стаўленнем да пытання.

Мэцью Крэсал, амерыканскі фантаст, зазірае ў будучыню, дзе людзі пакідаюць Зямлю. Атручаная за доўгія гады неашчаднай эксплуатацыі планета застаецца дарагой толькі адзінкам — герою, ад імя якога вядзецца апавяданне «Гукі старой Зямлі»; групе падлеткаў, што наведваюцца да яго ў госці, каб паслухаць у апошні раз спеў сапраўдных жабак... Твор пабудаваны на канфлікце айцоў і дзяцей, прычым на глабальным узроўні ў ролі айца выступае сама Зямля, а ў ролі дзяцей — няўдзячнае чалавецтва. «Ніжэй» канфлікт узнікае паміж бацькам (які прывязаны не проста да Зямлі, але да пэўнага лапіка на яе паверхні, з сажалкай, дрэвамі і домам) і яго нашчадкамі. Дзеці і ўнукі не разумеюць такой прывязанасці, нават асуджаюць яе, лічачы бацьку/дзядулю рэакцыянерам, які выступае супраць прагрэсу. Хоць герой і вымушаны ўрэшце адступіцца ад таго, што так яму дорага (ён уласнаручна спапяляе дом, каб не бачыць, як яго знішчаць чужыя рукі), фінал можна назваць аптымістычным: высвятляецца, што ўнучка разумее яго і многія гады працавала для таго, каб на Новай Зямлі ўзнавіць кавалачак таго самага старога свету, у якім яны былі шчаслівыя.

Стылістычным шэдэўрам можна назваць апавяданне Сяргея Катукова «Татуіроўшчык сноў» (па іроніі лёсу назва ў такога твора не самая ўдалая). Творца, які пакутуе ў пошуку натхнення і адчувае непадуладную прагу славы, — герой заўжды выйгрышны. У адным яго апісанні закладзены драматызм, якога хопіць на раман, але Сяргей Катукоў перадае ўздым і гібель творцы ў даволі сціслай форме, пры гэтым бездакорна валодае словам, фразай. Апісанні псіхічнага стану героя, умоў яго жыцця, партрэты другасных персанажаў паўстаюць яскравымі і адзіна магчымымі, а значыць — непаўторнымі. Разгортваючы фантастычную сітуацыю, пісьменнік быццам бы міжволі закранае пытанні грошай і таленту, сумлення і сквапнасці і шэраг падобных. Апавяданне «Татуіроўшчык сноў» натуральна выглядала б не толькі на старонках тэматычнага часопіса, але ў любым літаратурна-мастацкім выданні.

Сяргей Радкоўскі закранае тэму жыцця і яго падсуднасці, уводзячы ў твор Анёлаў — сатаны і Бога («Судзімыя па...»). Што лічыць грахом? І ці такая вялікая розніца паміж рознымі Анёламі? Сяргей Булыга ў аповедзе «Сізілім» прасочвае эвалюцыю маленькага насякомага, якое па волі дзікіх людзей становіцца боствам. Карын Цідбек стварае свой магічны рэалізм («База адпачынку цёткі Брыты»). Віктар Лугінін у «Экскурсіі» апісвае будучыню чалавецтва, дзе сям'я і прывязанасці высмейваюцца, дзе эгаізм — норма, дзе «стараверы», для якіх каштоўнымі застаюцца клопат пра іншых і гуманнасць, жывуць у рэзервацыях. Героі спрачаюцца — які лад жыцця лепшы: пазбаўлены пачуццяў і разам з тым войнаў і забойстваў ці стары, «жывы», але не пазбаўлены кровапраліцця?

Пра робатаў, якія могуць замяніць чалавека, і пра наступствы такой замены пісалася шмат. А што, калі робаты заменяць нам нашых чатырохногіх сяброў? І што, калі гэта стане




індустрыяй? Як паставяцца да такіх змен гаспадары механічных Шарыкаў і староннія людзі? Міхаіл Загірняк у апавяданні «Шарык» перастварае мноства пытанняў у адну пераканаўчую рэальнасць, і вынік падзей даволі прадказальны. Страх перад нечалавечым і нечалавечным, перад розумам, адрозным ад нашага, вымушае пісьменніка зрабіць выбар на карысць жывых сабачак — і жывых (ва ўсіх сэнсах) людзей.

Вытанчанае апавяданне Максіма Міласердава «Ашмёткі цывілізацыі», дзе людзі і чысты розум выпраўляюцца ў космас асвойваць новыя тэрыторыі для чалавецтва, але гінуць — бо першыя застаюцца людзьмі, а другі — страчвае чалавечнасць.

Заслугоўвае асаблівай увагі твор амерыканскай пісьменніцы Яўгеніі Лілі Ю «Эфект Урасімы». Далікатная, тонкая навела выклікае сваёй развязкай жах. Не катастрофа і не пачвара ўражваюць чытача, але выбар, які паўстае перад героем і які той робіць. Асаблівае адценне твору надае цесная сувязь з кітайскім фальклорам, што ўплятаецца ў тэкст не толькі «тэхнічна», абумоўлена сюжэтам, але і ідэйна.

Вельмі шмат тэм падымаюць аўтары «Касмапорта», з самых розных ракурсаў глядзяць на мінулае і будучыню людзей. Творы рознага мастацкага ўзроўню, розных жанраў і стыляў, але заўсёднай іх характарыстыкай, незалежна ад прагнозаў, застаецца безумоўная чалавечнасць.

**Наста ГРЫШЧУК**

*Надрукавана ў «Полымі»*

# Праблемы геніяльных піяністаў

Вясёлая проза звычайна ўспрымаецца як лёгкае, забаўляльнае чытво. Сур'ёзнае стаўленне магчыма толькі да сатыры: гучыць злавесны з'едлівы смех, аўтар усімі сродкамі выкрывае саманадзейнага героя. Пра жыццёвыя праблемы ў беларускай літаратуры прынята пісаць разважліва і глыбакадумна, хаця чаму б замест чарговай хвалі негатыву не пацешыць людзей усмешкай? Напэўна, падобныя думкі напаткалі чытачоў двух апошніх нумароў «Полымя» за 2014 год, і ў першую чаргу — Алеся Карлюкевіча, які пераклаў з украінскай мовы аповесць Уладзіміра Даніленкі «Сонейка маё, чорнае і калматае».

У творы спалучаюцца самыя немагчымыя рэчы: сямейны канфлікт, анекдатычныя здарэнні, тэма мастака і мастацтва. Але больш за ўсё ўражвае герой-апавядальнік — абсалютна сучасны ўкраінскі падлетак, які вольна размаўляе на слэнгу, вечарамі сядзіць за камп'ютарам, а чатырнаццаты дзень народзінаў рызыкоўна адзначае кіеўскім тортам і гарэлкай. Давялося некалькі разоў спраўджваць дату нараджэння Уладзіміра Даніленкі: ён нарадзіўся 13 верасня 1959 года і, такім чынам, адсвяткаваў сёлета 55-годдзе. Беларускія пісьменнікі такога ўзросту рэдка здзіўляюць чытача пераўвасабленнямі, звычайна робяць галоўнага героя падобным да сябе, а рэчаіснасць малююць шэрай і чужой. Таму для чалавека, які настойліва чытае беларускую прозу, «Сонейка маё, чорнае і калматае» будзе творам прыемна-нязвыклым.

Як кожны пісьменнік, які разлічвае на чытача, У. Даніленка ў хаўрусе са сталічным школьнікам Слаўко распавядае не пра будзённую аднастайнасць, а пра больш-менш адметныя здарэнні. Кот Бахус ловіць у вакне кажаноў, у госці нечакана прыязджае вясковая бабуля, на школьнай дыскатэцы адбываецца знаёмства з сямікласніцай Іяй Браілкай, якая марыць «рэкламаваць жаночую бялізну на вокладках мужчынскіх часопісаў». Але самае выключнае ў жыцці Слаўко — яго бацька, геніяльны піяніст Яўген Лунёў, «чалавек не ад свету гэтага». Пра бацькавы дзівацтвы і непрыстаўнасць у побыце можна распавядаць толькі з гумарам — але прадказальна, што адданасць высокаму мастацтву часта мае вынікам фінансавую нестабільнасць. Адсюль пагроза сямейнаму шчасцю, бо калі жанчына мае дзве працы і тры падпрацоўкі, «вечнае каханне» можа завяршыцца скандалам. І вось пачынаецца эканамічны крызіс, а тата губляе месца музыканта ў кавярні «Стары раяль».

Спачатку падаецца, нібы Слаўко весела распавядае гісторыю сваёй сям'і, але пакрысе робіцца відавочным, што ў цэнтры твора — перыяд доўгіх сварак і «амаль разводу». Сітуацыя ўскладняецца сіметрычным і адначасовым з'яўленнем у кожнага з бацькоў свайго палюбоўніка (гэта ўжо сапраўдныя сатырычныя героі!). Вядома, сыну выбітнага музыканта застаецца толькі засынаць пад злосны шэпт за сцяной і спадзявацца на замірэнне. У час святкавання народзінаў разам з Іяй Браілкай хлопчык адчувае сябе адзінокім: «Мы сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, двое няшчасных, самотных падлеткаў, забытых бацькамі, якія жывуць сваім эгаістычным дарослым жыццём».

Кантраст між пазітыўным расповедам і некалькімі сумнымі эпізодамі падкрэслівае галоўную ідэю твора не горш, чым доўгая мараль. Сапраўды, незалежна ад узросту кожнаму хочацца, каб між бацькамі быў лад і паразуменне. У сям'і Яўгена Лунёва ўсё канчаецца добра, і калі б Слаўко раптам не нагадаў настаўніцы, што «на перапынку дзеці з класа саромеюцца мовы Тараса Шаўчэнкі і Івана Франка», аповесць мела б абсалютны хэпі-энд.

Апісанні галоўных герояў адразу на першай старонцы твора, «сцёртыя» метафары, непрадказальныя ўчынкі персанажаў сігналізуюць пра тое, што аповесць адрасавана шырокаму колу чытачоў. У гумары заўсёды застаецца нешта простанароднае, таму смешныя творы рэдка разлічаны на элітарную аўдыторыю. Зрэшты, нават пасля параўнання глабальнага канфлікту з навальніцай ці прыпадабнення сям'і да «ненадзейнага папяровага карабліка» чалавек з тонкім літаратурным густам, верагодна, дачытае аповесць. Бо выдатная здольнасць пісьменніка выклікаць усмешку і адначасова звяртацца да сямейных праблем вартая вялікай удзячнасці!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



# Пульс яго пакалення

**Пісьменнік і журналіст Славамір Антановіч святкуе 60-гадовы юбілей. За плячыма творцы — дзесяцігоддзі плённай працы, у тым ліку і ў вышэйшых дзяржаўных структурах. Славамір Валяр'янавіч — член праўлення СПБ, член праўлення Беларускага фонду міру, лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». Імя яго знаёмае чытачам па кнігах «Пётр Машэраў», «У жніўні 91-га...», «Чорны вір Нёмана», «Лёс да запатрабавання», «Прысуджаныя да расстрэлу», «Вязні Пішчалава замка», «Прывіды Мажэйкаўскай крэпасці»... З юбілярам гутарыць карэспандэнт «ЛіМа».**

**Даведка «ЛіМа»**

Славамір Антановіч нарадзіўся 9 студзеня 1955 года на Гродзеншчыне, у Шчучынскім раёне. З залатым медалём скончыў Каменскую сярэднюю школу, затым Мінскі радыётэхнічны інстытут і юрыдычны факультэт БДУ. Працаваў на вытворчасці, у перыядычным друку, пазней — памочнікам першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, саветнікам старшыні Вярхоўнага Суда, начальнікам аддзела Генеральнай пракуратуры. Аўтар шэрагу гістарычных раманаў.

— Яшчэ падчас вучобы ў школе пісаў вершы і заметкі. Але паступаць на журфак БДУ адгаварыла старэйшая сястра, яго выпускніца. У выніку стаў студэнтам факультэта аўтаматыкі і тэлемеханікі Мінскага радыётэхнічнага інстытута, які скончыў у 1977 годзе. Працаваў сакратаром камітэта камсамола ў Мінскім гарадскім рамонтна-будаўнічым трэсце № 2, потым — у райкаме партыі. У 1991-м мне прапанавалі пасаду памочніка першага сакратара ЦК КП Беларусі. А праз год, пасля распаду Савецкага Саюза, стаў саветнікам старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. Аднак мне бракавала юрыдычнай адукацыі, таму атрымаў яе на завочным аддзяленні юрфака БДУ.

**— А як сталі пісьменнікам?**

— У 1986 годзе з партыйнай працы перайшоў на пасаду спецыяльнага карэспандэнта ў




газету «Мінская праўда», а праз два гады — у газету «Звязда». Меў доступ да архіваў Вярхоўнага Суда, звязаных з гібеллю Пятра Машэрава. Гэтае імя тады замоўчвалася, і калі я прапанаваў свае матэрыялы тагачаснай рэдакцыі «Звязды», іх баяліся друкаваць. Урэшце за публікацыю ўзяўся Сяргей Шахновіч, галоўны рэдактар газеты «На страже». Аднак па ідэалагічных прычынах гэты




працэс неўзабаве быў прыпынены. Калі ж па шматлікіх просьбах чытачоў публікацыю матэрыялаў аднавілі, іх пачалі друкаваць і ў «Звяздзе». А ў 1993 годзе ў Калінінградзе пабачыла свет мая кніга «Пётр Машэраў» — накладам у 700 тысяч асобнікаў. Праз пяць год яна была перавыдадзена ў айчынным выдавецтве «Юнацтва», а ў 2011-м выйшла ў Маскве.

**— Вы звяртаецеся да дакументальна-гістарычнай тэматыкі. Чаму абралі менавіта такі кірунак?**

— Падчас працы ў архівах Вярхоўнага Суда, Генеральнай пракуратуры, Масквы і замежжа я меў доступ да сакрэтных дакументаў з правам іх публікацыі. Таму ў маіх творах, а гэта пераважна аўтабіяграфічныя раманы, няма вымыслу — толькі гістарычныя факты і рэальныя персанажы. У кнігах — мой час, пульс майго пакалення, тыя, з кім даводзілася сустракацца ў розныя перыяды жыцця.

**— Пазалетась у Выдавецкім доме «Звязда» ўбачыла свет ваша кніга «Вязні Пішчалава замка». Як працавалі над рукапісам?**

— Усе згаданыя крымінальныя справы, у тым ліку мазырскую і віцебскую, разглядаў Вярхоўны Суд. Напісанню спрыяла ўсё тая ж праца ў архівах. А яшчэ — мае публікацыі ў перыёдыцы: у «Звяздзе», «СБ. Беларусь сегодня» ды інш.

**— Што пішаце цяпер?**

— Днямі здаў у Выдавецкі дом «Звязда» рукапіс гістарычнага рамана «Дыверсант Сталіна» — пра нашага земляка Аляксея Бацяна, які жыве ў Маскве. Яму ўжо 95 гадоў. У «Мастацкай літаратуры» перавыдаецца кніга «Тыя, хто пайшоў у несмяротнасць», а ў выдавецтве «Харвест» — кніга «У жніўні 91-га».

**Яна ЯВІЧ**

*Літвандроўка*

# Убачыць «Насцечку»...

**Сучасны аграгарадок Цімкавічы вядомы як бацькоўскае мястэчка сям'і Раманоўскіх. Мікалай Карлавіч Раманоўскі — будучы пісьменнік Кузьма Чорны — правёў тут дзяцінства і юнацтва, скончыў народнае вучылішча, настаўнічаў, працаваў у аддзеле народнай асветы. У 1964 годзе з ініцыятывы былога дырэктара школы Зінаіды Іосіфаўны Раманенка ў Цімкавічах пачаў працу літаратурны музей, будынак якога быў узведзены настаўнікамі і вучнямі мясцовай школы.**



*У музеі Кузьмы Чорнага.*

У 1993 годзе музей атрымаў статус дзяржаўнага, у 1994-м тут была адкрылася новая экспазіцыя. Мінула два дзесяцігоддзі, прыйшоў час чарговага абнаўлення. Праект экспазіцыі распрацоўвалі дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, мастак Генадзь Чысты, дызайнер Мікіта Чысты.

Паводле Лідзіі Вітальеўны, у новай экспазіцыі большая ўвага нададзена мясцоваму матэрыялу — каб падкрэсліць значнасць асобы Кузьмы Чорнага для жыхароў аграгарадка. Першую залу ўпрыгожвае фотавыстаўка — вынік плэнеру, прымеркаванага да юбілею пісьменніка. На здымках прыгожыя куткі Капыльшчыны: любімы Кузьмой Чорным Скіп'еўскі лес, крынічка ў Бушылаве, старая хата, якая памятае маленькага Міколу. Ёсць у музеі і карта даваеннай забудовы вёскі. Дагэтуль захавалася студня, побач з ёй і месціўся дом Раманоўскіх. Пасля экскурсіі школьнікі выпраўляюцца на пошукі студні, каб пакаштаваць смачнай вады, што піў некалі пісьменнік.

Музейныя экспанаты — гэта не толькі фотаздымкі, лісты, газеты, кнігі, але і старая мэбля, ткацкі станок, які належаў сям'і К. Чорнага. Між стэндамі добра глядзяцца банеры з малюнкамі пісьменніка. Ёсць у музеі і тэатральны куток, дзе прадстаўлены дэкарацыі да п'есы «Бацькаўшчына», якая атрымала шмат станоўчых водгукаў нават з замежных гастроляў. Адметнасць музея — маленькі тэатр: ён знаёміць наведвальнікаў з творамі Кузьмы Чорнага. Кіруе тэатрам загадчыца музея Людміла Ніжэвіч, а большасць артыстаў — вучні Цімкавіцкай школы. У рэпертуары — апавяданне для дзяцей «Гузік», артыкул «У роднай глушы», апавяданне «Родныя мясціны», фрагмент з аповесці «Насцечка».

«Аповесць «Насцечка» сёння вывучаецца ў школе — і дзецям, якія прыязджаюць бліжэй пазнаёміцца з творчасцю Чорнага, вельмі карысна пасля чытання твора паглядзець яго інсцэніроўку», — упэўнена Людміла Іосіфаўна, дарэчы, былая артыстка Цімкавіцкага народнага тэатра.

Першая экскурсія ў абноўленым музеі была праведзена для групы пісьменнікаў, журналістаў, супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея беларускай літаратуры. Пасля знаёмства з экспазіцыяй адбылася сустрэча са школьнікамі, дзе слова ўзялі першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, загадчык секцыі паэзіі СПБ Міхась Башлакоў, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, паэтка Вера Буланда. Творцы чарговы раз нагадалі аўдыторыі пра значнасць беларускай літаратуры і прыгажосць роднай мовы, А. Бутэвіч зазірнуў разам са слухачамі ў Беларусь розных гістарычных эпох. Галоўны рэдактар «Маладосці» Святлана Дзянісава падаравала школе новы нумар часопіса, а таксама «пілот» «Бярозкі». Школьнікаў запрасілі да актыўнага супрацоўніцтва з «Бярозкай»: большасць часопіснай плошчы адведзена пад допісы творчых хлапчукоў і дзяўчат.

На адкрыцці абноўленага музея прысутнічалі нашчадкі і сваякі Кузьмы Чорнага. Унук пісьменніка Мікола Раманоўскі пажадаў, каб Чорны не застаўся адзіным славутым чалавекам Цімкавічаў, каб з сённяшніх школьнікаў таксама выраслі знакамітыя людзі.

Па словах М. Раманоўскага, мястэчка Цімкавічы было пазначана побач з Клецкам і Слуцкам ужо на картах XVI — XVII стагоддзя. Сёння аграгарадок прыветна сустракае гасцей: на радзіму Кузьмы Чорнага зазіраюць турысты з Германіі, Іспаніі, Францыі, краін Прыбалтыкі. Асобная вітрына літаратурнага музея прадстаўляе пераклады твораў Чорнага на розныя мовы свету. І калі замежныя госці бачаць кнігу беларускага класіка на сваёй роднай мове, то пачынаюць ставіцца да яго яшчэ з большай цікавасцю!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ, фота аўтара**

# Увага: моладзь на старце!

**Адным з паказчыкаў паспяховасці развіцця нацыянальнай літаратуры можна лічыць не проста з'яўленне новых імёнаў, але перадусім выхад кніг маладых аўтараў. Смелыя, амбітныя, пісьменнікі-пачаткоўцы зазвычай робяць выклік старым нормам і правілам, стараючца па-свойму выказаць свежыя думкі. Сёння мы распавядзём пра кнігі, якімі летась дэбютавалі маладыя творцы, і новыя рысы, што з'явіліся дзякуючы гэтым выданням на агульным «твары» беларускай літаратуры.**

## КАЛЕКТЫЎНАЕ ПАРАДНАЕ ФОТА

Ужо адразу можна заўважыць адну заканамернасць для ўсіх дэбютаў: пісьменнікаў, якія прадставілі свае першыя выданні ў 2014-м, нельга назваць пачаткоўцамі ў справе напісання вершаў, прозы. Кожны з іх — адметны, яркі, са сваім творчым стылем і голасам. Выхад кніг для гэтых творцаў — не спроба распавесці пра сябе свету, сцвердзіць уласную індывідуальнасць, а хутчэй этап падагульнення здабыткаў, адказ на бясконцыя пытанні калег, сяброў, чытачоў: «Калі ўжо кніга?».

Мне падаецца, свая дэбютная кніга ў руках — як трапятанне перад важнай падзеяй, да якой доўга рыхтаваўся, выбіраў вопратку, аксесуары, прыдумваў прычоску — як паглядзець на сябе ў люстэрка ў поўны рост. З аднаго боку, гэта не зусім ты, хутчэй «парадны» вобраз, але менавіта такім цябе ўспрымуць знаёмыя і незнаёмцы, такім запомняць, такім ты застанешся на фотаздымках… Зрэшты, класічная мадэль прадстаўлення беларускага аўтара: публікацыі ў часопісах — удзел у літаратурных конкурсах і праектах — размяшчэнне твораў у інтэрнэце — у выпадку з дэбютамі-2014 спрацавала бездакорна. У выніку чытачы радуюцца, што нарэшце могуць паставіць на паліцу кнігу ўжо любімага творцы. Самі ж дэбютанты пабойваюцца рэакцыі публікі, не ведаючы, як ставіцца да зборнікаў уласных тэкстаў і пакуль нават не задумваюцца пра наступныя выданні.

## КЛІЧУЦЬ АВАНТУРЫ

Маладыя празаікі запрашаюць чытача акунуцца ў атмасферу прыгодаў, рэальных і ўяўных. Так, аўтарка з Магілёва **Алена Беланожка**, якая летась прадставіла аповесць **«Чамадан з кракадзілавай скуры»**, знаёміць нас са светам шоу-бізнесу і распавядае гісторыю пра выкраданне паспяховай прадзюсаркі, якое ў вынікуператвараецца ў выратаванне свету. Тут усё дынамічна, героі бегаюць, ездзяць, уцякаюць і даганяюць. Кніга чытаецца хутка і лёгка. Перамагае дабро, працяг гісторыі магчымы. Мне падаецца, аповесць каштоўная перадусім спробай стварыць прыгодніцкі блокбастэр менавіта на беларускім матэрыяле, памясціўшы герояў у падземны бункер каля Брэста ці гатэль у Гомелі. Карацей, так трымаць, Алёна! Чакаем новых тэкстаў.

Падарожжы ў розныя краіны, блізкія і далёкія, для нашых суайчыннікаў ужо не раскоша і не прыкмета заможнага жыцця. Мы нарэшце зразумелі, што падарожнічаць — крута і не зусім дорага. Большасць выпраўляецца ў вандроўкі па правераных турыстычных сцежках, ды знаходзяцца авантурысты, якіх цягне на экзотыку. Да прыкладу, празаік **Рома Свечнікаў** амаль два гады падарожнічаў вакол свету і апісаў свае ўражанні ў кнізе **«Рома едзе»**. Папяровае выданне вельмі хутка стала амаль бестселерам (па нашых мерках), а электроннае — разляцелася па свеце і чыталася нават праз гугл-перакладчык. Скарыў Рома і літаратурных крытыкаў, да прыкладу, Ганна Кісліцына была зачараваная «і яго тэкстам, ад якога, пры ўсёй прастаце задумы, немагчыма адарвацца. І яго стылем — поўным нечаканых метафар». Радуе таксама і той факт, што працяг абавязкова будзе.

Вельмі яскравым абяцае быць і дэбют маладога гісторыка **Міколы Волкава** з даследаваннем **«Артылерыя Нясвіжскага замка»**. Кніга вось-вось пабачыць свет. У чым яе смеласць і авантурнасць? Падаецца, перадусім у тэматыцы і падыходзе да прадстаўлення гістарычных фактаў. Тэхнічныя характарыстыкі нясвіжскай артылерыі, прымяненне гармат у дзеянні, роля зброі ў лёсе Радзівілаў — аднаго з самых вядомых магнацкіх родаў ВКЛ.

## ГОЛАС ПАЭТЫЧНЫ

Леташнія дэбюты ў паэзіі — не проста старт для маладых творцаў. Кожны з іх — ужо амаль зорка са сваім адметным зззяннем. Стыль пазнавальны, імёны вядомыя, адзінае што ў кнігах кожны з вершаў нібыта знайшоў сваё месца, а вобраз паэта і яго лірычнага героя больш выразна акрэслены. **Юля Цімафеева** ў **«Кнізе памылак»** прадстаўляе ўласныя вершы, а таксама пераклады. Мне вельмі падабаецца, што паэтка не спыняецца на традыцыйнай паэтычнай вобразнасці, смела абыходзіцца з радком, адмаўляецца ад рыфмаванага верша на карысць верлібра. Юля прамаўляе шчыра, адкрыта, гучна, не саромеючыся сваіх думак і не баючыся рэакцыі чытача.

Кніга ўраджэнкі Полацка **Таццяны Нядбай «Сірэны спяваюць джаз»** атрымалася больш мяккай і жаноцкай. Гэта вельмі якасная паэзія, напісаная сучаснай жанчынай (як гэта ні парадаксальна, ініцыятарам выдання кнігі быў мужчына). На вершах адчуваецца, што пісаліся яны ў розны час (гэтага зборніка сапраўды доўга чакалі), аднак такая амплітуда стылю дазваляе прасачыць развіццё творчай індывідуальнасці аўтаркі.

Дэбют **Антона Рудака** — кнігу **«Верхні горад»** — «ЛіМ» ужо згадваў у ліку самых яркіх кніг 2014-га. У паэта атрымалася гарманічна спалучыць рамантыку, тугу па мінулым, захапленне гісторыяй, трагізм і любоў да гарадской прасторы. Вобразы яго яркія, высновы — нечаканыя.

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Калі проза прапаноўвае неверагодныя прыгоды, паэзія адмаўляецца ад традыцый, то дзіцячыя кнігі, напісаныя аўтарамі-дэбютантамі, нібыта ўсклікаюць: «Ніякага дыдактызму!». Прынамсі, прамога. Гэтыя гісторыі прыемна чытаць і дарослым, а між радкоў бачыцца жаданне аўтара не проста навучыць малога, паказаць, як варта паводзіцца, але перадусім павесяліць чытача.

Так, кнігу **Алены Мальчэўскай «Ша-ша з левага чаравіка»** немагчыма чытаць без усмешкі. Цёплыя інтанацыі, сімпатычныя героі, прыемныя дробязі… Дэталі, якія аўтарка падкрэслівае ў распаведзе, акцэнты на прастасці, прыгажосці, загадкавасці свету… На старонках кнігі можна пазнаёміцца з афтальмолагам Верай, у якой ёсць чатыры сланы, і незвычайным звяркам Ша-шам, які з'яўляецца ў левым чаравіку, каб навучыць новага сябра тром рэчам. Навошта думаць пра кепскае, калі можна проста з прыемнасцю пабоўтаць нагамі ці зрабіць зайца з пальчатак, або… Усё, больш ніякіх спойлераў! Самі чытайце і ўсміхайцеся.

Дэбют **Вікторыі Сянкевіч** у жанры прозы для дзяцей, напэўна, самы нечаканы. Вядомая журналістка і тэлевядучая летась выдала кнігу **«Цікаўная вустрыца»**. Тут сабраныя кароткія гісторыі пра самых розных герояў. Лісток паперы, які вельмі баяўся трапіць у смецніцу, але ператварыўся ў паштоўку. Матылёк, які навучыўся сябраваць. Вітраж, які коштам уласнага жыцця выратаваў сябра. Гэтыя распаведы простыя і светлыя, добрыя і радасныя. Аўтарка нібыта кажа: усё найлепшае адбываецца нечакана. Думаю, ёй варта паверыць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*«Паэзія Галіны Кірпа ясная, простая, суровая. Што ў ёй найбольш здзіўляе, дык гэтае паяднанне суровай мовы з лагоднаю, але не сэнтыментальнаю, а з такою тыпова ўкраінскаю пяшчотаю».*

**Дмытро ПАЎЛЫЧКА**

# Душы палітра

Паэтычны зборнік «Профіль вечара» быў падпісаны да друку ў апошнія дні 2013 года. У годзе мінулым наклад у 300 асобнікаў разыходзіўся па сябрах Галіны Кірпа. Калі трапіў гэты зборнік выбранага да мяне «на палітру душы», я пачаў сагравацца «босымі вершамі» даўняй сяброўкі, а з прысвячэнняў нібы глянулі на мяне даўно знаёмыя аблічы Яраславы Паўлычка, Аксаны Сенатовіч, Аксаны Шалак…

Галіна Кірпа перакладае з беларускай, польскай, рускай, нямецкай, шведскай, дацкай, нарвежскай моваў. А яе творы пераствораны на албанскую, англійскую, беларускую, польскую, французскую, расійскую мовы. Ідзе поруч, а мо і паперадзе, свайго мужнага мужа — паэта і перакладчыка Дмытра Чэрэднычэнкі. І з Дмытром, і з Галінай мы абменьваліся сваімі перастварэннямі. Ды вось іскрынка загарэлася на спарышу-дзірване пры пераходзе з аднаго года ў наступны. Справа ў тым, што Галіна 1-га студзеня святкавала не толькі дзень нараджэння новага года, але і свой дзень нараджэння. А чарговая адзнака — юбілейная.



Вось чаму я паспяшыў прыўлашчыць свае пераклады з кнігі «Профіль вечара». Пераслаў іх у Кіеў у профіль раніцы Галіны Кірпа — на багатую палітру яе душы. Хай на Беларусі пачуецца водгук яе творчага радка.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

### На споведзі

*Ойча,*
*не пакрывайце маю галаву.*
*Мне рупіць*
*у вочы вам*
*углядацца.*
*Мо і пашчасціць*
*застаць у іх*
*водбліск сваёй трывогі.*
*Мне немінуча*
*трэба ведаць,*
*ці дойдзе мая споведзь*
*да Усявышняга.*
*Дабраславіце мяне*
*вочы ў вочы,*
*ойча.*

### Свая самота

Яраславе Паўлычка

*Кожны насельнік*
*грэе сваю самоту*
*каля грубкі*
*гаручага сэрца,*
*лілее таему*
*і нават*
*чуць-чуць мілуе.*
*Грэх нам*
*на яе наракаць —*
*падзячна ёй маем*
*цэлы свет,*
*якога больш аніхто*
*не бачыць.*

### Босыя вершы

*Босыя мае вершы*
*тукочуць,*
*як дзеці,*
*па спарышы —*
*непрычэсаныя,*
*мурзатыя,*
*з пятаў саскрэбваюць*
*чмяліны пылок*
*і ў шчасці*
*не чуюць,*
*як я іх клічу*
*дадому —*
*ў пасцельку*
*бялюткую*
*на палітры душы.*
*Заву і —*
*не дазавуся.*

**Пераклад з украінскай мовы Сяргея ПАНІЗНІКА**

# Сцежкай звонкай

Галіна Рагавая ў літаратуры не навічок. Выдае зборнікі паэзіі і рэгулярна выступае перад чытачамі. Як сябар Беларускага літаратурнага Саюза «Полоцкая ветвь» імкнецца актыўна прапагандаваць роднае слова, выхоўваць у школьнікаў і студэнтаў любоў да роднага краю. А не так даўно ў мінскім выдавецтве «Каўчэг» выйшла новая кніга творцы — «Залатыя сходні».

Паэтычная сцежка Галіны звонкая, светлая, такая ж і мова. Паэзія Г. Рагавой — гаючая празрыстая крыніца, якая дапаможа многае зразумець і адчуць. Вершы лёгка запамінаюцца, многія творы сталі рамансамі і песнямі. Цяжка застацца абыякавым да такіх радкоў:

*Так можна кінуць край свой вольны*
*Дзеля чужых заморскіх дзіў,*
*Хто на сваёй старонцы роднай*
*Сады ніколі не садзіў.*

У адным з вершаў Галіна Рагавая шчыра прызнаецца чытачам: «Ды толькі лепшая ў свеце дарога мне тая, што ў родных мясцінах».

Творца шукае і знаходзіць адметныя вобразызалацінкі, асабісты стыль: «…Ужо пчоламі ліпень спявае», «Здымае залатую шапку клён», «Малюся, каб толькі надзея з апошнім лістом не прапала», «…Над дахам крыламі патрусіць — дзіцятка ў дзюбе прынясе!», «Пралятае ветлы чэрвень на лёгкім парашуце дзьмухаўца».

Шмат яскравых вобразаў знойдуць чытачы ў новай кніжцы. Мілагучныя вершаваныя радкі выдатна перадаюць настрой творцы: перажыванні і ўражанні, смутак, замілаванасць роднай прыродай.

Галіна Рагавая складае прыгожую песню, што цешыць душу, дорыць сонечную надзею: «Не існаваць, а жыць і быць малою ноткай вечнай песні…»

**Ганна АТРОШЧАНКА**

# Новы год, магія і Каза

Вядома, што зімой вожыкі ўпадаюць у спячку. Але не часопіс «Вожык»! Спаць у шапку няма калі, бо кожнага чытача неабходна забяспечыць святочным настроем.

Частка матэрыялаў снежаньскага нумара будзе прысвечана навагодняй тэме. Андрэй Сідарэйка ў не казачнай гісторыі "Меню Дзеда Мароза" раскажа, на якія адчайныя ўчынкі трэба ісці выдуманаму персанажу, каб у яго паверылі. У анекдотах раскрыецца цэлы шэраг святочных сакрэтаў: куды знікаюць цукеркі з дзіцячых падарункаў, як праводзіць перад Новым годам дні прымірэння і згоды, куды ляцяць сняжынкі-працаголікі і чаго ні ў якім разе нельга прасіць у Дзеда Мароза. Вожыкаўскія мастакі пацешаць вока навагоднімі замалёўкамі пра сваркі ў сям'і снегавікоў, дзіўныя італьянскія традыцыі і многае іншае. Лявон Целеш прапануе разгадаць крыжаванку «Каля ёлкі карагоды», а Алена Карасёва ў антыалкагольнай казцы «Жылі-пілі» нагадае, чаму шчасце нельга адшукаць на донцы бутэлькі.

У рубрыцы «Вожык» у асобах» прагучаць гумарыстычныя творы з літаратурнай спадчыны Міхася Чавускага, «хроснага бацькі часопіса», з дня нараджэння якога мінула ўжо 110 гадоў. А «Кнігарня «Вожыка» прапануе бліжэй пазнаёміцца з творчасцю яшчэ аднаго Міхася — Слівы, вядомага пісьменніка-гумарыста, які выдаў дзве выдатныя кнігі гумару — «Жыццё на Парнасе» і «…і мора па калена».

У заканчэнні спецвыпуску, прысвечанага V абласному фестывалю гульні і гумару «Капыльскія пацехі» (пачатак надрукаваны ў дзвятым нумары), рэй будуць весці іншыя цікавыя ўдзельнікі свята з Міншчыны — тэатр гульні і гумару «Барсукоўскія гарэзы», гурт народнай гульні і песні «Вясёлы балаган», народны мужчынскі жартоўны гурт «Чэрвеньскія балагуры», тэатральны гурток «Жартаўнікі», індывідуальныя выканаўцы Тамара Міхаленя і Раіса Валькова.

Самым маленькім чытачам «Калючык» прапануе навагоднюю крыжаванку, падборку каламбураў і маляваных забаўлянак.

Падарункам для кожнага чытача стане адмысловы каляндар з сімвалам 2015 года — Казой.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

***На паліцы***

# «Дзякуй табе, Кніга!»

Адзін з праектаў, рэалізаваных летась у мінскім «Кнігазборы», вельмі ўразіў сваёй неспадзяванасцю, сваім святлом і цяплом, сваім нечаканым надзвычайным піетэтам да Яе Вялікасці Кнігі. Размова — пра невялікую памерам, але такую глыбокую па сваёй энергетыцы кнігу Соф'і Жыбулеўскай «Дзякуй табе, Кніга!» Пад адной вокладкай пададзены выявы аўтографаў, якія на розных па часе выданнях аўтары адрасавалі Соф'і Антонаўне. А папярэднічае гэтым дзясяткам выяў невялікае, але вельмі насычанае ўступнае слова аўтара — «Крыху споведзі».




Соф'я Жыбулеўская адпрацавала з кнігай, у кніжным гандлі, у кнігараспаўсюджванні, амаль паўвека. Вось этапы яе працоўнай біяграфіі: 17 верасня 1964 года — пачатак працы ў сістэме. Першая кнігарня — Мінск, вуліца Брылеўская, 9, першая пасада — прадавец II катэгорыі. У пачатку 1969 года была прызначана загадчыцай магазіна № 16 у Мінску па вуліцы Карла Лібкнехта. У 1974 годзе — новая пасада: дырэктар вялікага новага кніжнага магазіна № 35 па вуліцы Прытыцкага нашай сталіцы. У 1978 годзе Соф'ю Жыбулеўскую абіраюць старшынёй аб'яднанага камітэта прафсаюзаў Мінскага аблкнігагандлю. Праз тры гады — начальнік аддзела кадраў аблкнігагандлю. У сістэме — каля 60 магазінаў, колькасць супрацоўнікаў больш як 1100 чалавек. У 1998 — 2009 гг. Соф'я Антонаўна — дырэктар магазіна «Акадэмічная кніга».

Гэтая паважаная і энергічная жанчына адзначана многімі ўзнагародамі. Сярод іх — медаль «За доблесную працу».

Ва ўспаміне, ва ўступным слове «Крыху споведзі» Соф'я Жыбулеўская найбольш падрабязна распавядае аб працы ў магазіне «Акадэмічная кніга». «З вялікай адказнасцю ставілася да фарміравання асартыменту магазіна, — піша дасведчаны арганізатар кніжнай справы. — Без усялякіх ваганняў і навязаных думак і спраў я папаўняла магазін навуковай, сур'ёзнай кнігай. Але прызнаюся, што спачатку гэта таксама было складана. Цяжка было выйсці на сур'ёзных выдаўцоў і пастаўшчыкоў навуковай літаратуры і з-за таго, што мы пачалі з чыстага ліста, не маючы абаротных сродкаў, многія партнёры не спяшаліся ісці з намі на кантакт: доўга прыглядаліся. У гэты перыяд мы павінны былі запаўняць кніжныя паліцы тым, што нам прапаноўвалі. І я чула папрокі навукоўцаў: «Звычайны магазін». Для рашэння гэтай праблемы і галоўнай задачы неабходна было ўстанавіць кантакты з выдавецтвам «Навука» РАН — адным з лідараў навуковага кнігавыдання не толькі на постсавецкай прасторы, але і ў свеце. Знаёмства на Міжнародным кніжным кірмашы ў 1999 годзе ў Маскве з кіраўніцтвам гандлёвай фірмы «Акадэмкніга» РАН дало пачатак паспяховаму развіццю нашага супрацоўніцтва. Наяўнасць кніг маскоўскіх навуковых выдавецтваў стварала славу магазіну, і гэта заахвочвала пакупнікоў не толькі Мінска, але і ўсіх рэгіёнаў рэспублікі...»

Відавочна, што Соф'я Антонаўна здолела не толькі адрадзіць унікальную кнігарню, але яшчэ і заклала фундамент, аснову яе развіцця. Сёння Мінск культурны нельга ўявіць без крамы «Акадэмічная кніга».

Не буду пераказваць змест аўтографаў, адрасаваных Соф'і Жыбулеўскай. Назаву хаця б некаторых пісьменнікаў, вучоных, чые добрыя словы вы знойдзеце ў адмысловым зборніку «Дзякуй табе, Кніга!»: Лідзія Арабей, Рыгор Барадулін, Раіса Баравікова, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Аляксандр Лакотка, Леанід Леванoвіч, Адам Мальдзіс, Алесь Марціновіч, Таццяна Мушынская, Валянціна Паліканіна, Зіновій Прыгодзіч...

«Дзякуй табе, Кніга!» — выдатны падарунак многім улюбёным у кніжніцтва людзям. Гэта яшчэ і пачатак руплівасці Соф'і Жыбулеўскай на ніве кнігазнаўчай мемуарыстыкі. А сілы і натхненне ў гэтага абаяльнага чалавека ёсць!

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Пра нашу культуру — па-чэхаўску

***Баландзін, К. І. Гісторыя культуры Беларусі: дапаможнік / К. І. Баландзін. — Мінск: БНТУ, 2014. — 239 с.***

Мінскі навуковец і педагог Канстанцін Баландзін у сваёй новай працы прадэманстраваў выдатнае веданне ўсіх чыннікаў культурнага працэсу, усіх галін культуры. Канстанцін Іванавіч — гісторык, культуролаг, мастацтвазнаўца, палітолаг, сацыёлаг, літаратуразнаўца, псіхолаг, этнограф у адной асобе. У дапаможніку добра прасочваецца сістэмная рэканструкцыя гісторыі культуры Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён, прычым і тытульнага, і нетытульных этнасаў.

На старонках «Гісторыі культуры Беларусі» ўвазе чытачоў прапануецца дзевяць тэм. Першыя пяць ахопліваюць дасавецкі перыяд, наступныя тры — час з 1917 па 1985 гг., апошняя — гарбачоўскую перабудову і постсавецкі час. Пры выкладанні першай тэмы аўтар пераканальна засведчыў, што «культура беларускіх зямель у IX—XIII стст. набірала моц, пашырала свой уплыў на побыт, спрыяла росту культурнага ўзроўню насельніцтва, мела цесныя сувязі з культурай іншых краін і народаў, якія аказалі пэўнае ўздзеянне на развіццё беларускай культуры».

Мяркуючы па змесце другой тэмы, удалым атрымаўся нетрадыцыйны аналіз фарміравання агульнанацыянальнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Выразна прасочваецца аўтарская версія фарміравання беларускай народнасці, арыгінальны погляд на старабеларускую літаратуру, усебаковае асэнсаванне новых тэндэнцый у развіцці дойлідства і мастацтва.

Трэцяя тэма прадстаўляе гісторыі культуры беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай. Кожны раз, калі я звяртаюся да гэтага перыяду, задаю сабе пытанне: «Чаго ў гэты час было больш: здабыткаў ці страт?» Канстанцін Баландзін канчаткова пераканаў: менавіта здабыткаў. Аўтар кнігі ўзгадвае, што якраз у гэты час пачалася гісторыя віленскага барока, упершыню стала прасочвацца «ВКЛаўская» спецыфіка ў змястоўнай частцы грамадска-палітычнай думкі. Асаблівая ўвага чытача звяртаецца на тое, што «на грунце агульнаеўрапейскіх і нацыянальных дасягненняў развіваюцца такія самабытныя віды мастацтва, як беларуская разьба па дрэве, своеасаблівы станковы жывапіс, вытворчасць слуцкіх паясоў, карэліцкіх габеленаў, урэцка-налібоцкага шкла». Па ўсім відаць, на больш высокі ўзровень тады ўзнялося тэатральнае жыццё, а ў розных сферах беларускага мастацтва, навукі, думкі, літаратуры і кнігадрукавання паўсталі буйныя дзеячы еўрапейскага ўзроўню, з'явіліся першыя газеты. Чацвёртая і пятая тэмы ахопліваюць культурныя працэсы на айчыннай тэрыторыі з моманту яе ўваходжання ў склад Расійскай імперыі да 1917 г. У храналагічным парадку яны размяжоўваюцца сярэдзінай XIX ст.

Адразу пяць буйных праблемных пытанняў падымаюцца ў матэрыяле, які прэзентуе шостую тэму — «Культурныя пераўтварэнні на Беларусі ў паслярэвалюцыйны перыяд (1917 — 1941)». Аўтар змог па-чэхаўску распарадзіцца інфармацыйным блокам. Мінскі навукоўца даказаў неабгрунтаванасць суцэльнага нігілізму да культурных працэсаў савецкага часу на Беларусі.

Не менш удала выкладзена тэма «Культура Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941 — 1944)». Канечне, галоўнае тут — асвятленне ў жорсткай прывязцы да ваеннага часу пытанняў асветы, навукі, літаратуры, мастацтва, культурна-масавай работы, страты культурных каштоўнасцей. Факты, якія прыводзіць аўтар, даюць усе падставы сцвярджаць, што «нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы ваеннага часу, беларуская культура жыла, развівалася, узбагачалася новымі тэмамі і вобразамі і дасягнула ў гэтым вялікіх поспехаў, хаця тэмпы яе развіцця і запаволіліся».

Адна з самых складаных для вывучэння тэм — «Развіццё беларускай культуры ў 1945 — 1985 гг.» На чым грунтуецца такое сцвярджэнне? Перш за ўсё на дынаміцы змен грамадска-палітычнага характару ў гэты час. Тут і агонія сталінскага рэжыму, і хрушчоўская адліга, і застой... Безумоўна, размова ідзе пра неадназначныя чыннікі культурных працэсаў. Тут важна вытрымаць прынцып гістарызму, адэкватна выкарыстаць параўнальна-гістарычны і гісторыка-сістэмны метады.

Апошні метад, дарэчы, набыў для Канстанціна Баландзіна нашмат большае значэнне ў выкладанні дзявятай тэмы, якая ахоплівае 1985 — 2014 гады. У гэты адрэзак часу сярод чыннікаў культурных працэсаў цэнтральнае месца заняла сістэмная трансфармацыя.

Думаецца, кнігу «Гісторыя культуры Беларусі» можна назваць узорным навучальным дапаможнікам, карысным і студэнтам, і выкладчыкам.

**Міхаіл СТРАЛЕЦ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

# У трэндзе — кантраст

**Персанальная выстаўка жывапісу Васіля Касцючэнкі «Каляровыя аповеды» працуе ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.**



*З серыі «Каляровыя воблакі». «Зачараваны вечар». 2014 г.*



*«Радуніца». 2013 г.*

У экспазіцыі прадстаўлены шэраг палотнаў апошніх гадоў, аб'яднаных канцэпцыяй звароту да вобраза чалавека, які знаходзіць у віры жыцця месца для пачуццяў і веры, мар і кахання.

— Поспех мастака як сучаснага аўтара — у актыўным рэагаванні на падзеі і трэнды мастацкага дыскупу, і разам з тым ён застаецца сентыментальным, лірычным, — адзначыў мастацтвазнаўца Алесь Сухадолаў.

Васіль Касцючэнка з тых мастакоў, хто не проста фіксуе навакольны свет у яго формах, а даследуе яго, шукае гармонію паміж сабой і рэчаіснасцю. Адышоўшы ад састарэлай кансерватыўна-акадэмічнай пластыкі, ён не далучыўся да самых радыкальных плыняў, не звёў сутнасць пошукаў толькі да эксперыментаў. Творца здолеў выпрацаваць адметныя прыёмы, уласцівую менавіта яму жывапісную пластыку. Стыль мастака ўпісваецца ў сусветную хвалю «новай фігуратыўнасці». У ім спалучаюцца элементы беспрадметнага і рэалістычнага мастацтва.

Мастак працуе ў розных жанрах: нацюрморт, карціна, краявід, манументальны жывапіс. Яго работы неаднолькавыя і па настроі: ад напружана драматычных («Ружовае свята», «Укрыжаванне», «Устрыманае імгненне»), пабудаваных на спалучэнні кантрасных колераў, да гарманічна-ўраўнаважаных («Калыханка», «Белая раніца»), выкананых у адной светлай танальнасці. Аўтарскі тэмперамент найбольш праяўляецца ў дынамічных колеравых спалучэннях (чырвонага з зялёным, зялёнага з ружовым ды інш.).

Цікавая серыя, прысвечаная Мінску («Горад 1,2», «Рэха горада», «Ля храма») — унёсак у распрацоўку мастацкага брэнда беларускай сталіцы. Для гэтых работ характэрны пазітыўны спектр у адлюстраванні мегаполіса, адчуваецца маладая энергетыка горада.

Асобнае месца ў творчасці аўтара займаюць палотны на хрысціянскія сюжэты — «Прычасце», «Радаўніца», «Сустрэча», блізкія да кранальных сюжэтаў народнага іканапісу. Аўтар прадстаўляе тут не столькі рэлігійную тэму, колькі традыцыйны светапогляд славянскіх народаў.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Святочны ёлак карагод

**Каляды ды Новы год немагчыма ўявіць без галоўнага атрыбута гэтых свят — ёлкі. Паглядзець на нестандартныя навагоднія дрэвы прапануе інтэрактыўны выставачны праект «Арт-Ёлкі» ў Цэнтры сучасных мастацтваў. Установа запрашае адчуць напоўніцу харастпо і казачнасць зімніх свят.**

У экспазіцыі прадстаўлены работы маладых мастакоў, а таксама арыгінальныя інсталяцыі ды арт-аб'екты ў «ёлачнай» стылістыцы. Творцы стварылі навагоднія дрэвы з нестандартных матэрыялаў, упрыгожылі незвычайнымі рэчамі… Свае арт-ёлкі прадставілі Марыя Барысенка, Сяргей Шыла, Людміла Дамнякова, Наталля Аджзер, Ларыса Мілько ды іншыя. Фантазія мастакоў не ведае межаў. Тут можна ўбачыць самыя розныя ёлкі: плюшавыя, цэлафанавыя, лямцавыя, папяровыя, шкляныя… Некаторыя зроблены з дроту, сашчэпак і нават камп'ютарных дыскаў.

Падчас адкрыцця выстаўкі прысутныя ўбачылі аўтарскія «воркшопы» па стварэнні ды ўпрыгожванні навагодніх дрэваў ад беларускіх майстроў. На вачах у гасцей ёлка Ганны Сілівончык ператварылася ў… прыгожую паненку! Ёлку ў стылі «тэхна-арт» зрабіла Алена Гурэцкая.

На выстаўцы таксама прадстаўлены жывапіс і графіка беларускіх мастакоў. Свае карціны прэзентуюць Іван Семілетаў, Васіль Пяшкун, Сяргей Стэльмашонак, Уладзімір Голубеў, Дзяніс Барсукоў. Работы аб'ядноўвае зімовая тэматыка і святочны настрой. Асобную частку экспазіцыі займаюць фантастычныя і казачныя работы Ганны Сілівончык, а таксама экспрэсіўныя, неардынарныя работы Глеба Отчыка, які стварае карціны з… маянэзу. Дапаўняе выстаўку калекцыя навагодніх фатаграфічных паштовак, у якой прадстаўлены ўнікальныя аўтарскія экзэмпляры з прыватных калекцый беларускіх фатографаў.

Праект «Арт-ёлкі» будзе доўжыцца да 19 студзеня. Наведаць установу супрацоўнікі раяць не адзін раз: штодзень — новыя мерапрыемствы. У межах праекта адбудуцца спектаклі ды перфомансы ад тэатральных калектываў сталіцы, нясумныя лекцыі, кінапаказы, прэзентацыі, майстар-класы па вырабе ёлачных цацак. Праект будзе цікавы ўсім: ад самага маленькага наведвальніка да спрактыкаванага знаўцы сучаснага мастацтва.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



Фота Кастуся Дробава

*Ёлка Маргарыты Макоўскай.*

# Адметны почырк майстра

Выкладчык Шаркаўшчынскай раённай школы мастацтваў, сябра Беларускага Саюза мастакоў Віктар Крук прымеркаваў выстаўку да ўласнага 65-гадовага юбілею. Але жыццё распарадзілася так, што з-за хваробы творца не змог прысутнічаць на адкрыцці. Пра адметны духоўны і творчы воблік Віктара Фёдаравіча ў Віцебскім цэнтры сучаснага мастацтва распавялі яго калегі, мастацтвазнаўцы, аднакурснікі, выкладчыкі.

У экспазіцыі — 60 палотнаў. Адкрывае яе аўтапартрэт, напісаны ў 1970 годзе. Варта адзначыць, што гэта любімы жанр Віктара Крука. Мастак імкнецца нагадаць людзям пра таленавітых асоб беларускай зямлі: Васіля Быкава, Хаіма Суціна, Язэпа Драздовіча, Эмілію Плятэр ды іншых.

Цёплыя словы ў адрас мастака выказалі старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў Святлана Баранкоўская, начальнік аддзела культуры галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама Пётр Падгурскі, выкладчык мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава Фелікс Гумен ды іншыя.

**Кацярына СОСНА**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2260.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 8.01.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1453.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686